1 сакавіка 2019 | № 8 (619)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

Прадам амерыканскі штат. Нядорага

Стар. 8

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**4** **ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ: КАЗАЦЬ «НЕ» ЗЛАЧЫНСТВУ**

Працягваем наш цыкл інтэрв'ю з актывістамі Варты абароны Курапатаў




**5** **РЫЭЛТАРАЎ ЧАКАЮЦЬ ЗМЕНЫ**



Некаторыя з рыэлтараў кажуць, што ім малако за шкоднасць трэба выдаваць. Аднак і самі яны часцяком майстры круцельстваў

**6–7** **МІКОЛА САВІЦКІ: АСНОВА ДЗЯРЖАЎНАЙ ІДЭАЛОГІІ – СТРАХ**

Мікалай Іванавіч адзначыў 85-годдзе, і з гэтай нагоды падзяліўся сваімі ўспамінамі і сваім бачаннем таго, як Беларусь можа стаць беларускай і выйсці з-пад расійскага ўплыву

**10–11** **«ЁН З НАРОДАМ, НАРОД З ІМ»**

Лукашэнку ў нас найчасцей параўноўваюць то з Гітлерам, то са Сталіным, то з Чаўшэску. А што наконт Пілсудскага?

# Краіна экстрэмістаў

## Для чаго і супраць каго прымаюцца папраўкі ў заканадаўства?



Сяргей ПУЛЬША

Ужо ў красавіку ў Палаце прадстаўнікоў будуць разглядаць чарговыя папраўкі ў «Закон аб барацьбе з экстрэмізмам». У асноўным яны тычацца крымінальнай адказнасці за рэабілітацыю нацызму і адміністрацыйнай — за захоўванне або набыццё ў мэтах распаўсюджвання нацысцкай, экстрэмісцкай і тэрарыстычнай сімволікі і атрыбутыкі. Гэты законапраект ужо быў прыняты парламентам у першым чытанні напрыканцы мінулага года.

«Рэабілітацыя нацызму, прапаганда або публічнае дэманстраванне, выраб або распаўсюджванне нацысцкай сімволікі або атрыбутыкі альбо сімволікі або атрыбутыкі экстрэмісцкіх або тэрарыстычных арганізацый, а таксама захоўванне або набыццё ў мэтах распаўсюду такой сімволікі або атрыбутыкі забараняюцца», — гаворыцца ў законапраекце.

Самі папраўкі, на першы погляд, не такія ўжо і жудасныя. У адрозненне ад асноўнага закону аб супрацьдзеянні экстрэмізму, у іх даволі ясна прапісана, што такое нацызм, якая сімволіка і атрыбутыка з'яўляюцца нацысцкімі і што ёсць рэабілітацыяй нацызму. Найперш, нацысцкімі будуць прызнаныя атрыбутыка і гімны арганізацый, якія былі вызначаныя злачыннымі альбо вінаватымі ў здзяйсненні злачынстваў Міжнародным ваенным трыбуналам у Нюрнбергу. Альбо заснаванымі на Нюрнбергскім працэсе прысудамі нацыянальных, ваенных або акупацыйных трыбуналаў.

Пад «рэабілітацыю нацызму» падпадаюць таксама і выявы арганізацый, якія супрацоўнічалі з нацысцкімі структурамі на акупаванай тэрыторыі СССР у гады Другой сусветнай вайны, а таксама выявы асоб, якія стварылі, кіравалі альбо ўдзельнічалі ў дзейнасці такіх арганізацый у любой іншай форме.

Удакладняючыя папраўкі можна было вітаць, калі б распрацоўшчыкі дакумента абмежаваліся выключна нацызмам. Але яны, як звычайна, паспрабавалі ўціснуць туды, паводле выразу Пушкіна, «коня и трепетную лань». Гэта наконт тых, хто нібыта «супрацоўнічаў» з нацысцкімі структурамі на тэрыторыі СССР у гады Другой сусветнай вайны.

Што, напрыклад, да Саюзу Беларускай Моладзі, які ўтварыўся ў Беларусі ў 1943 годзе? Ці падпадуць пад забарону выявы Барыса Кіта і Барыса Рагулі? Ці Беларускай Краёвай абароны, створанай пры ўдзеле Радаслава Астроўскага і Кастуся Езавітава ў 1944-м? Ці трапіць пад «рэабілітацыю нацызму» асоба сябра СБМ Алеся Раковіча, які па вызваленні Беларусі быў мабілізаваны ў Чырвоную армію і змагаўся з гітлераўцамі ў Еўропе?

Пытанне таксама з «сімволікай або атрыбутыкай экстрэмісцкіх або тэрарыстычных арганізацый». Гэта, хутчэй, да «асноўнага» закону, а не да паправак, бо яшчэ нідзе ў свеце не вызначылі, што такое «экстрэмізм». Не асабліва вызначана гэта і ў нас. Ёсць пералік з 13 пунктаў, якія дзеянні і ўчынкі можна лічыць экстрэмісцкімі, а вось якая сімволіка «экстрэмісцкая»?

Эмблема нямецкіх Rote Armee Fraktion, «Фракцый Чырвонай арміі», — чырвоная зорка з аўтаматам «Хеклер і Кох» на яе фоне — вядомая ці не кожнаму «леваку». Безумоўна, арганізацыя тэрарыстычная.




**Змагацца з рэабілітацыяй нацызму трэба. Але трэба прапісаць канкрэтна, што ім з'яўляецца. Інакш міжволі «экстрэмістамі» станем мы ўсе**

Але напачатку яе ахвярамі былі не проста банкіры і высокія чыноўнікі ФРГ — як правіла, усе яны былі колішнімі дзеячамі НСДАП. Напрыклад, галоўны федэральны пракурор пры Вярхоўным судзе Германіі Зігфрыд Бубак — сябра нацысцкай партыі з 1940 года. Ад 1941-га і аж па 1945 год служыў у Вермахце, нават быў ваеннапалонным, што не перашкодзіла яму заняць такую высокую пасаду. Дый ФРГ у 1970-я гады была зусім не такой, як зараз: былых нацыстаў ва ўладзе там хапала, і пра «пакаянне і прымірэнне» ніхто з іх нават не думаў…

Карацей, эмблема «антыфашысцкай, але тэрарыстычнай» RAF — падпадзе пад забарону?

Але не так страшныя папраўкі ў нашае заканадаўства, колькі невядомая практыка іх прымянення. Напрыклад, «рэабілітацыяй нацызму» будзе лічыцца дэманстрацыя нацысцкай сімволікі ў інтэрнэце. Узнікае пытанне: ці будзе ўлічвацца пры гэтым кантэкст выявы? Ці паўторыцца адна са шматлікіх спраў Міколы Дзядка, калі гэтая выява была, па-першае, фотаздымкам калажу, па-другое, калажу, апублікаванага ў газеце (у законапраекце па-ранейшаму не з'яўляецца парушэннем дэманстрацыя нацысцкай сімволікі ў мастацкай дзейнасці і СМІ), а па-трэцяе, мела якраз супрацьлеглы, антыфашысцкі кантэкст?

Ці будзе праводзіцца хоць нейкая экспертыза, альбо гэта зноў — «на думку следчага»?

Змагацца з рэабілітацыяй нацызму трэба. Але таксама трэба прапісаць больш канкрэтна, што ім з'яўляецца. Інакш міжволі «экстрэмістамі» станем мы ўсе. І ўвогуле, лепш гэта рабіць не ў законе пра экстрэмізм, а са школьнай лавы.

# «Свабоду палітвязням»: акцыя і затрыманні

Сяргей ПУЛЬША

**На Кастрычніцкую плошчу Мінска 26 лютага выйшлі грамадскія актывісты з партрэтамі палітзняволеных.**

Абвестку пра акцыю размясціў у сваім фэйсбуку сустаршыня БХД Павел Севярынец. Згодна з ёй, Форум «Свабоду палітвязням» заклікаў да правядзення а 18 гадзіне на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску акцыі салідарнасці з палітычнымі вязнямі Беларусі. «Апошнія падзеі — перавод на турэмны рэжым Святаслава Барановіча, ізалятары для Міхаіла Жамчужнага, ціск на іншых хлопцаў — сведчаць пра тое, што іх «прэсуюць». Калі Лукашэнка хоча праводзіць у Беларусі «Еўрапейскія гульні» — няхай вызваляе палітзняволеных», — напісаў Севярынец.

Паводле яго слоў, пра акцыю былі паінфармаваныя «ключавыя заходнія амбасады».

Сам Севярынец да месца правядзення мерапрыемства не дайшоў — яго затрымалі на выхадзе з дома. Пэўны час ён правёў у нейкім «цэнтры прафілактыкі», а потым быў адвезены ў цэнтр утрымання правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна ў Мінску.

Аднак акцыя адбылася. У ёй удзельнічалі блізу 10 чалавек, якія разгарнулі расцяжку «Свабоду палітвязням» і трымалі ў руках партрэты Святаслава Барановіча, Міхаіла Жамчужнага, Ігара Комліка. Сярод удзельнікаў былі Вольга Нікалайчык, Леанід Кулакоў, Максім Вінярскі і іншыя.

Пікет доўжыўся хвілін дваццаць, падчас яго ніхто не быў затрыманы. Актывісты скончылі акцыю скандаваннем: «Свабоду палітвязням! Жыве Беларусь!»

Затрыманні пачаліся пазней. У той жа дзень быў схоплены ўдзельнік акцыі, актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Арцём Чарняк. Яго адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна Мінска. Стала вядома пра затрыманне Вольгі Нікалайчык. На наступны дзень у Першамайскі РУУС быў адвезены Леанід Кулакоў і затрыманая Мая Наўмава. Месцазнаходжанне Максіма Вінярскага было невядомае.

# Як армія з мяне мужыка рабіла

Сямён ПЕЧАНКО

**Кіраўнік дзяржавы зноў вярнуўся да тэмы службы ў войску. Як і ў кастрычніку мінулага года, ён апеляваў да старога савецкага прынцыпу: «Не служыў — не мужык».**

— Сёння дзяўчынка хоча, каб побач з ёю быў мужык, а не проста хтосьці там у штанах хадзіў, — казаў студэнтам гродзенскіх ВНУ Аляксандр Лукашэнка тры месяцы таму. Тады ён выступіў з ідэяй адпраўляць студэнтаў у войска падчас летніх вакацый.

Сёння галоўнакамандуючы яшчэ раз падкрэсліў сваё перакананне ў тым, што мужчына павінен служыць у войску:

— Радзіму павінны абараняць усе, хто жыве на гэтай зямлі. Не дай Бог канфлікт — палова мужыкоў не ведаюць, што такое зброя. Я ўжо не кажу пра тое, што яны не ўмеюць ёю карыстацца.

У гэтым месцы, мабыць, я збольшага пагаджуся са словамі кіраўніка краіны. І дазволю сабе падзяліцца ўласным досведам службы ў войску. І хоць гэта было 15 гадоў таму, думаю, многае застаецца актуальным і ў нашы дні.

### Швабра і нож замест «калашнікава»

За год службы пасля ўніверсітэта ў навагрудскім радыётэхнічным палку мне давялося страляць з аўтамата толькі тройчы: адзін раз баявымі патронамі на палігоне і двойчы халастымі 9 мая і 3 ліпеня.

Заняткі па страявой падрыхтоўцы са зброяй праводзіліся рэгулярна, досыць часта даводзілася займацца разборкай і чысткай аўтамата. Але ці дапамогуць мне тыя навыкі ў выпадку «не дай Бог канфлікт» — вялікае пытанне. У войску я часцей трымаў у руках не «калашнікава», а швабру, рыдлёўку і нож для чысткі бульбы.

На маю думку, каб беларусы, што прайшлі армію, не забывалі, як карыстацца зброяй, трэба пакінуць у мінулым прыборку снегу і апалага лісця сіламі асабістага складу. А час, які вызваляецца, прысвяціць баявой падрыхтоўцы.

Дарэчы, жанчыны-кантрактніцы, што служылі ў палку, былі на стрэльбішчах часцей за салдат тэрміновай службы.

### Вучоба «адсюль і да абеду»

У канцы службы мне давялося паўдзельнічаць ва ўсталёўцы радыёлакацыйнай станцыі. Мяне выклікалі ў парк палка і загадалі назіраць за працамі, адначасна выконваючы дробныя даручэнні прапаршчыка.

Я правёў у парку паўдня, пасля чаго ў ваенным білеце мне зрабілі запіс аб прысваенні ваенна-ўліковай спецыяльнасці: гэта значыць, што ў ваенны час я буду выконваць абавязкі начальніка разліку радыёстанцыі, якую бачыў усяго толькі раз у жыцці.

З-за шчыльнага графіка нарадаў па службе атрыманыя ў «вучэбцы» веды па баявой падрыхтоўцы, тапаграфіі і ваеннай медыцыне былі вельмі фрагментарныя. Як і многае іншае ў арміі, вучоба тут падпарадкоўвацца прынцыпу «адсюль і да абеду».

### Фізічная падрыхтоўка і загартоўка

Да пазітыўных момантаў я магу аднесці агульную фізічную падрыхтоўку. Штодзённыя прабежкі па 5–8 кіламетраў не забываліся праз гады пасля службы. Як і загартоўка — я да гэтага часу дастаткова ўпэўнена пераношу мінусавыя тэмпературы. Хаця гэты навык быў атрыманы, хутчэй, выпадкова: зімой падчас службы з-за аварыі на кацельні нам давялося некалькі тыдняў начаваць пры тэмпературы не вышэй 10–12 градусаў цяпла.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Ці дазволіць улада наязджаць на людзей?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Дзявяты месяц Леанід Кулакоў спрабуе дамагчыся пакарання для кіроўцы машыны, якая збіла яго падчас абароны Курапатаў.**

Яшчэ ў чэрвені на абаронцу мемарыяла Курапаты Леаніда Кулакова наехала наведніца скандальна вядомай рэстарацыі «Поедем поедим» Злата Савостава. У актывіста дыягнаставалі закрыты пералом рукі, доўгі час Леанід правёў у шпіталі, дый пасля выпіскі шмат часу правёў у гіпсе і не мог працаваць — ён таксіст. Яшчэ на месцы аварыі супрацоўнікі ДАІ казалі Кулакову, што дзяўчыну чакае пазбаўленне правоў на 3 гады. Ужо сакавік, Злата Савостава працягвае законна кіраваць машынай, Кулакоў не атрымаў ні капейкі кампенсацыі, а суд, які мусіў расставіць кропкі над «і», сумняваецца, а ці быў пералом наогул.

Як раней Леанід Кулакоў распавядаў «Новаму Часу», яго руку аглядалі ажно тры мінскія лекары. У шпіталі №6, куды Кулакоў трапіў пасля ДТЗ, яму дыягнаставалі пералом рукі, у паліклініцы №27 дыягназ пасля пацвердзілі, так жа як і ў шпіталі №11, куды Кулакова адпраўлялі на рэабілітацыю, паколькі рука дагэтуль цалкам не аднавілася. У той жа час судмедэксперт лічыць, што пералому не было наогул — і адстойвае гэтую пазіцыю на судзе.

Суддзя прызначыў незалежную экспертызу, якая мусіць даказаць рацыю лекараў альбо судмедэксперта. Але экспертыза каштуе больш за 1800 рублёў. Такіх напакленняў у Кулакова няма, таму абаронцы Курапатаў заклікаюць сабраць грошы талакою. Ужо назбірана каля 800 рублёў, поўную суму трэба сабраць да аўторка, 5 сакавіка. Грошы можна пералічыць на картку Беларусбанка 9112 0001 6782 7159, тэрмін дзеяння: 09/21 альбо іншымі спосабамі, пазначанымі на сайце novychas.by.

Калі вынікі экспертызы будуць на карысць Леаніда Кулакова, то кіроўца Злата Савостава мусіць вярнуць грошы за яе правядзенне — у такім выпадку сабраныя талакой сродкі пойдуць на добраўпарадкаванне мемарыяла Курапаты. Дарэчы, калі будзе даказана, што пералом усё ж быў, супраць кіроўцы распачнуць крымінальную справу за нанясенне цялесных пашкоджанняў. Тады Леанід Кулакоў зможа разлічваць на кампенсацыю, а Савоставай давядзецца нейкі час паездзіць на пасажырскім месцы. У адваротным выпадку, Леанід наўрад ці дачакаецца хоць якой кампенсацыі.

Аднак абаронцаў Курапатаў хвалюе не магчымасць кампенсацыі, а справядлівае пакаранне — ці не стане рашэнне суду знакам для іншых агрэсіўных кіроўцаў, што грамадскіх актывістаў можна беспакарана калечыць?

# Як вясной налічаць «камуналку». Новыя правілы

Павел КІРЫЛАЎ

**З 1 сакавіка адбыўся цэлы шэраг змяненняў у налічэннях платы за розныя камунальныя паслугі. У прыватнасці, у хуткім часе тыя беларусы, каго дзяржава ўважае за дармаедаў, атрымаюць адмысловыя «жыроўкі». Але яшчэ ёсць трохі часу, каб цябе выключылі з дыскрымінацыйных спісаў.**

Нагадаем, што афіцыйны статус дармаедаў — асобы, не занятыя ў эканоміцы. І няважна, што вы дысцыплінавана сплачваеце падаткі. Гэтага факту недастаткова. Трэба даказаць, што вы дзесьці працуеце. Каму? Камісіям, створаным у райвыканкамах паводле нашумелага дэкрэту кіраўніка дзяржавы №3 ад 2015 года. Афіцыйна называюцца яны «камісіямі па каардынацыі працы па садзейнічанні занятасці насельніцтва».

Трэба асабіста ці па электроннай пошце прадставіць туды пэўныя дакументы. Варыянты розныя — ад працоўнай дамовы з замежнай фірмай да даведкі аб часовай непрацаздольнасці. Тады вас выключаць з «дармаедскай» базы. На гэта ёсць апошнія дні лютага. Інакш падаграванне вады ў сакавіцкай «жыроўцы» за люты будзе налічана на сто працэнтаў. Адбудзецца пераразлік і за студзень.

Але гэта толькі тады, калі «дармаед» — уласнік жылля. Калі ён, напрыклад, жыве з працуючай жонкай і дзіцём, то заплаціць па поўнай толькі прапарцыйна за сябе. Калі ў кватэры беспрацоўныя ўсе, то плата за гарачую ваду будзе спаганяцца стопрацэнтна з усіх. А калі з занятым пражываюць разам «дармаеды», будуць ужытыя звычайныя тарыфы.

Поўны тарыф — 81,4 рубля за 1 Гкал. Гэта ў пяць разоў болей, чым субсідаваны дзяржавай — 16,9 рубля. З кастрычніка такая розніца ў тарыфах будзе ўстаноўленая і датычна ацяплення.

Таксама з 1 сакавіка набываюць моц змены, якія датычацца аплаты электраэнергіі, тэхабслугоўвання, паслугі водазабеспячэння і водаадвядзення.

Важны момант: субсідаваны тарыф пры разліку платы за жыллёва-камунальныя паслугі будзе прымяняцца датычна жылых памяшканняў, у якіх ёсць зарэгістраваныя па месцы жыхарства грамадзяне, і не будзе залежаць ад таго, ці знаходзяцца яны ў блізкім сваяцтве з уласнікам або наймальнікам жылля.

Скасоўваецца дыферэнцаваная плата за тэхнічнае абслугоўванне жылых дамоў, паслугі водазабеспячэння і водаадвядзення, электраэнергію.

Напрыклад, калі сёння сям'я з двух чалавек, якая пражывае ў кватэры плошчай 70 кв.м, за 50 кв.м плаціць па субсідаваных тарыфах, а за «лішнія» 20 — па так званых эканамічна абгрунтаваных, то з сакавіка плошча кватэры, у якой ёсць зарэгістраваныя грамадзяне, ужо не будзе мець значэння. Ёсць зарэгістраваны ў кватэры грамадзянін — ужываецца субсідаваны тарыф 0,1187 руб. за 1 квадратны метр агульнай плошчы кватэры.

Гэтае правіла таксама тычыцца цеплазабеспячэння і газазабеспячэння. Плаціць за цяпло па поўных тарыфах будуць тыя ўласнікі кватэр, у якіх няма зарэгістраваных грамадзян. Цяпер падобны тарыф прымяняецца і да жылля, дзе зарэгістраваныя па месцы жыхарства толькі грамадзяне, якія юрыдычна не знаходзяцца ў блізкім сваяцтве з гаспадаром кватэры. Напрыклад, брат-сястра, бабуля-ўнукі, цётка-пляменнікі пры асобным пражыванні. Субсідаваны тарыф на цеплазабеспячэнне — 16,9259 руб. за 1 Гкал.

Не будуць залежаць ад нормаў спажывання і тарыфы на ваду — з сакавіка любы спажыты аб'ём вады будзе аплачвацца па субсідаваных тарыфах. Важная ўмова — рэгістрацыя па месцы жыхарства або знаходжання і наяўнасць прыбораў індывідуальнага ўліку расходу вады. Субсідаваны тарыф на водазабеспячэнне — 0,8338 руб. за 1 кубічны метр, водаадвядзенне — 0,6383 руб. за 1 кубаметр.

Тарыф на электраэнергію з сакавіка такі: 0,1484 за 1 кілават-гадзіну ў дамах з электраплітамі, 0,1746 за 1 кілават-гадзіну — з газам. Дыферэнцыяваны тарыф па часе сутак (дзённым/начным) захоўваецца.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Кадры не вырашаюць нічога

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Часам, калі чытаеш навіны, узгадваеш старыя анекдоты. Напрыклад, як адзін чыноўнік, каб прадухіліць падзеж жывёлаў на ферме, прапаноўваў пафарбаваць стайню ці ў зялёны, ці ў чырвоны колер. А калі жывёла ўся памерла, сказаў: «Шкада! У мяне яшчэ столькі цікавых ідэй было!»**

Гэтая показка прыйшла на думку, калі я пабачыў чарговую «прарыўную ідэю» віцэ-прэм'ера Аляксандра Турчына. Ён хоча разагнаць рост ВУП да 4 працэнтаў на год пры дапамозе сотні вялікіх прадпрыемстваў. «Мы ўнеслі ў Адміністрацыю прэзідэнта праект указа адносна шэрагу прадпрыемстваў, назіральныя саветы якіх павінны ўзначаліць вышэйшыя службовыя асобы, плюс топ-100 акцыянерных таварыстваў нашай краіны, дзе мы выбудуем нармальную эфектыўную сістэму карпаратыўнага кіравання», — сказаў Турчын.

Канешне, цікавая ідэя! Па-першае, зразумела, калі, напрыклад, наваполацкім «Нафтанам» зоймецца міністр эканомікі, а гродзенскім «Азотам» — міністр прамысловасці. Але ці будзе карысць «Гомсельмашу» ад куратарства міністра аховы здароўя, а БелАзу — ад міністра спорту і турызму?

Па-другое, у Беларусі, паводле падлікаў, на мінулы год было 36 чальцоў ураду. Зразумела, на ўсе прадпрыемствы не хопіць. Будзем пашыраць урад?

І, па-трэцяе, топ-100 акцыянерных таварystваў краіны, дзе «мы выбудуем сістэму карпаратыўнага кіравання». Гэта ўжо ўвогуле нікуды не лезе. Калі таварыствы сапраўды «акцыянерныя», то яны павінны самі вырашаць праблемы кіравання. А калі ў іх уласцiць дзяржава — то гэта альбо дзяржаўныя прадпрыемствы (давайце называць рэчы сваімі імёнамі), альбо «дзяржаўны рэйдарскі захоп» з дапамогай розных «залатых акцый» і іншых інструментаў.

Але, на думку старшага аналітыка «Альпары» Вадзіма Іосуба, ані БелАЗ, ані «Гродна-Азот» не дачакаюцца сваіх куратараў. «Гаворка можа ісці пра прадпрыемствы дрэваапрацоўкі, як ні дзіўна, пра нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы, якія ў мінулым годзе пачалі прыносіць страты. Гаворка можа ісці пра прадпрыемствы цэлюлозна-папяровай прамысловасці, цэментнай прамысловасці», — прагназуе ён.

То-бок, прадпрыемствы, у якія ўбухалі мільярды долараў на «мадэрнізацыю», але ніякага поспеху не дасягнулі, — яны застаюцца стратнымі. І тут не «шэфства» ўводзіць трэба і не карпаратыўнае кіраванне. Патрэбныя нармальныя аддзелы маркетынгу і збыту, а таксама зніжэнне сабекошту прадукцыі. А калі гэтага не будзе — нават міністр замежных спраў у якасці куратара не дапаможа.

Праўда, Іосуб яшчэ больш радыкальны: «Для эфектыўнасці дзяржпрадпрыемстваў трэба пагрузіць іх у рынкавае асяроддзе: даць працаваць таму, што працаваць можа, даць памерці таму, што нежыццяздольнае».

А без гэтага, паводле меркавання яшчэ аднаго эканаміста, Леаніда Заікі, вынікі будуць простыя: «Будуць ездзіць, будуць біць у барабаны, будуць даваць справаздачу. Будуць інфаркты, да інфарктаў дададуцца інсульты, але ўсё застанецца па-ранейшаму».

У глабальныя планы Турчына не вераць і самі дырэктары прадпрыемстваў. Нацбанк на тыдні прадставіў аналітычны агляд «Маніторынг прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі» Паводле яго, кіраўнікі беларускіх прадпрыемстваў чакаюць у лютым-красавіку 2019 года росту

**Беларусаў, незадаволеных падзеннем узроўню жыцця і ростам коштаў, — 53%. Кіраўніку дзяржавы давяраюць 42,8% апытаных, а 44,3% грамадзян яму не давяраюць**

інфляцыі, павелічэння спажывецкіх коштаў і зніжэння абменнага курсу беларускага рубля.

Пры гэтым кіраўнікі прадпрыемстваў чакаюць у лютым-красавіку 2019 года павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і попыту, але з гэтым прыйдзе «патрэба ў крэдытаванні і скарачэнне колькасці занятых», адзначаецца ў даследаванні.

Паводле дадзеных апытання топ-менеджараў беларускіх кампаній, эканамічная кан'юнктура ў лістападзе 2018-га — студзені 2019 года пагоршылася. Неспрыяльнай кан'юнктуру палічылі 41,6% кіраўнікоў прадпрыемстваў супраць 40% трыма месяцамі раней. Эканамічнае становішча свайго прадпрыемства адзначылі як здавальняючае 71% кіраўнікоў прадпрыемстваў, як дрэннае — 18,9%.

І, паводле ацэнак кіраўнікоў прадпрыемстваў, за апошнія тры месяцы попыт на іх прадукцыю зніэіўся. А калі попыт знізіўся, адкуль возьмуцца 4% ВУП?

Ах, сапраўды, у нас жа ВУП могуць палічыць па колькасці створанай, але не прададзенай прадукцыі!

У ацэнцы бягучай сітуацыі не адстаюць ад кіраўнікоў прадпрыемстваў і простыя рабацягі. Паводле вынікаў даследавання, праведзенага ў рамках рэгіянальнай праграмы «Разам да справы» па ініцыятыве Цэнтра даследавання грамадскага кіравання SYMPA і грамадска-культурнай кампаніі «Будзьма беларусамі!», мазгі жыхароў краіны за апошнія 10 гадоў павярнуліся ў іншы, цалкам супрацьлеглы, бок. 63,4% беларусаў лічыць, што менавіта яны адказныя за свой дабрабыт і самі абавязаны вырашаць свае праблемы. Толькі каля 25% апытаных упэўненыя, што за іх дабрабыт адказвае дзяржава.

Гэтыя вынікі кардынальна адрозніваюцца ад аналагічнага апытання 2008 года. Тады 65% апытаных спадзяваліся на дзяржаву.

Беларусы незадаволеныя, перш за ўсё, падзеннем узроўню жыцця і ростам коштаў (53%), рэформай ЖКГ і пенсійнай рэформай (20%). Пры гэтым 64,3% рэспандэнтаў лічаць, што дзяржорганы Беларусі прадастаўляюць далёка не ўсю неабходную інфармацыю пра сваю працу, дзеянні і рашэнні. Гэта тычыцца і кіраўніка дзяржавы: пра давер да яго заявілі 42,8% апытаных, а 44,3% грамадзян яму не давяраюць. У межах статыстычнай хібнасці, але ж...

Дык што ж рабіць? Як нам павысіць дабрабыт народа? Цікавы рэцэпт прапанавалі жыхары Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Справа ў тым, што ўлады закрылі аўтастанцыю ў аграгарадку Доўск, якая знаходзілася на трасе Санкт-Пецярбург — Адэса. Станцыяй карысталіся жыхары населеных пунктаў, райцэнтраў, пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы, транзітныя пасажыры. Штодня ад яе адпраўляліся больш за 30 аўтобусаў, але мясцовыя ўлады вырашылі яе закрыць, а разам з ёй — і прыбіральні, і скрыні для смецця.

А паколькі ўлады на патрабаванні аднавіць станцыю не рэагавалі, актывісты напісалі ліст... Дональду Трампу! Яны просяць амерыканскага прэзідэнта дасласць і ўсталяваць на закрытай аўтастанцыі біяпрыбіральні, смеціцы, лаўкі, а таксама печку-«буржуйку».

Ідэя цікавая, але яе трэба развіць. Згодна з «планам Турчына», ці не возьме апякунства над «Гомсельмашам» спадарыня Меркель?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Марына Золатава



**Працэс над рэдактаркай TUT.BY увайшоў у фінальную стадыю. Пракурор запатрабавала Золатавай штраф у памеры 1000 базавых велічыняў.**

Золатава выступіла з апошнім словам. У выступе яна падагульніла тое, пра што казала на папярэдніх пасяджэннях. «Я не зазіраю ў чужыя маніторы, і нават фізічна са свайго месца не магу гэтага рабіць. «Мне стала вядома» пра доступ да БелТА — гэта фармулёўка следчага. Я тады не звяртала ўвагу на гэта, бо гэта быў мой першы ў жыцці допыт у якасці абвінавачанай. Далей я выкарыстоўвала фармулёўку «здагадвалася». Я не давала Ганне Калтыгінай задання правесці маніторынг мэтазгоднасці падпіскі на БелТА — Ганна прапанавала гэта зрабіць сама. Ажыятаж вакол гэтай справы ўзнялі не мы, першыя публікацыі па ёй дазволілі сабе дзяржаўныя СМІ».

Золатава адзначыла: у яе не было інфармацыі, што нехта з супрацоўнікаў карыстаецца платнай падпіскай БелТА, а калі такая інфармацыя з'явілася — яна запатрабавала гэта спыніць.

«Ці з'яўляецца ў такім выпадку мая віна больш сур'ёзнай, чым віна асобы, якая зрабілі магчымай такую сітуацыю?» — падкрэсліла яна, маючы на ўвазе тое, што паролі да платнай стужкі БелТА не змяняліся дзясяцігоддзямі. Таксама яна адзначыла, што інфармацыя аб дзейнасці дзяржаўных органаў, на якой спецыялізуецца БелТА, павінна быць, згодна Канстытуцыі, у адкрытым доступе.

Прысуд Марыне Золатавай будзе вынесены 4 сакавіка.

## Зміцер Палієнка



**Былы палітвязень і яго сяброўка Наста Гусева былі ў чарговы раз затрыманыя. Падставай стала серыя фотаздымкаў, на якіх маладзёны стаяць ля будынка Заводскага РАУС з аркушамі паперы з нібыта экстрэмісцкімі надпісамі.**

Зранку 26 лютага ў кватэру Зміцера Палієнкі пачалі ламіцца міліцыянты. Падставай для праследу стаў нібыта ўдзел маладзёнаў у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Таксама іх абвінавацілі ў экстрэмізме.

Пікантнасць сітуацыі ў тым, што акцыі насамрэч не было: Палієнка і Гусева сфатаграфаваліся ля РАУС з чыстымі аркушамі паперы, надпісы былі зроблены пазней з дапамогай камп'ютарнай апрацоўкі.

Аналагічны выпадак раней адбыўся з Пятром Маркелавым, які нібыта сфатаграфаваўся каля будынка МУС з плакатам «Заблакуйце 86.57.250.202». Гэтыя лічбы — IP-адрас сайта Міністэрства ўнутраных спраў. Гэтым Маркелаў выказаў сваю нязгоду з блакіроўкай шэрагу інтэрнэт-рэсурсаў, у тым ліку сайту руху «Дзея», сайту ініцыятывы за дэкрыміналізацыю 328 артыкула Крымінальнага кодэкса. Потым высвілася, што фотаздымак быў зроблены ў фотошопе, акцыі не было. Але гэта не перашкодзіла Маркелаву правесці ноч на Акрэсціна.

## Ігар Карпенка



**Лукашэнка аб'явіў афіцыйную вымову міністру адукацыі. Кіраўніка адукацыйнага ведамства абвінавацілі ў непрыняцці належных мер, якія б забяспечылі бяспечныя ўмовы знаходжання дзяцей ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі.**

Нагадаем, раніцай 11 лютага ў школе ў Стоўбцах 10-класнік напаў з нажом на настаўніцу і школьнікаў, педагог і старшакласнік загінулі, яшчэ два вучні апынуліся ў бальніцы.

Карпенка паспрабаваў апраўдацца. Маўляў, на базе рэспубліканскага цэнтра псіхалагічнай дапамогі будзе арганізавана анлайн кругласутачнае аказанне экстраннай псіхалагічнай дапамогі дзецям і кансультаванне бацькоў. А Мінадукацыі сумесна з МНС, МУС, Мінабароны і іншымі ведамствамі прыступіць да распрацоўкі палажэння аб забеспячэнні бяспекі навучэнцаў.

«Лічым таксама правільным зацвердзіць пералік прадметаў і рэчываў, забароненых да захоўвання і выкарыстання навучэнцамі, увядзенне абмежавання права карыстання сродкамі мабільнай сувязі ва ўстановах адукацыі», — дадаў Карпенка.

Канешне, усё зло ад мабільнікаў. І калі, крый Божа, паўторыцца такі інцыдэнт — ні міліцыю не здолеюць выклікаць, ні «хуткую дапамогу».

# Зміцер Дашкевіч: Спакойна казаць «не» злачынству

Дзяніс ІВАШЫН

**Працягваем наш цыкл інтэрв'ю з актывістамі Варты абароны Курапатаў. Гэтым разам мы размаўляем са Змітром Дашкевічам, удзельнікам самай першай Варты абароны Курапатаў у 2001–2002 гадах, лідарам другой абароны ў 2017 годзе, адным з самых актыўных абаронцаў падчас бягучай Варты.**



Зміцер Дашкевіч падчас абароны Курапатаў у 2017 годзе



***— Зміцер, якое значэнне Курапаты маюць для цябе асабіста, і якое — для беларускага народа?***

— У найноўшай гісторыі Беларусі Курапаты — гэта краевугольны камень, на якім засноўваўся нацыянальны рух да адраджэння і свабоды. Без Курапатаў немагчыма зразумець тое, дзе мы і хто мы як народ. Памяць пра тысячы нявінна забітых абудзіла Беларусь у канцы 1980-х. У сваёй ацэнцы значэння Курапатаў я сыходжу з таго, што гісторыя — гэта лагічны і заканамерны працэс, творца якога — Бог. Калі гісторыя — не хаос, а логіка і парадак, то мы мусім задумацца, чаму Госпад нам зноў і зноў нагадвае пра Курапаты? Чаму трэці год запар мы гаворым пра нацыянальны некропаль? Відаць, нешта недарабілі мы, як народ, 30 гадоў таму, калі Курапаты былі адкрыты. Не адбылося, я мяркую, самага галоўнага — агульнага пакаяння ў жахлівых грахах камунізму і дэкамунізацыі. Мы не зрабілі тых высноў з гісторыі, якія зрабіла Нямеччына пасля Другой сусветнай вайны. Сённяшнія падзеі вакол Курапатаў сведчаць для мяне, што Госпад рыхтуе наш народ да неабходнасці зрабіць гэтыя высновы.

***— Ці можаш ты параўнаць гэтыя тры хвалі абароны? Як змяніўся характар супраціву? Як змяніліся дзеянні рэжыму?***

— У той альбо іншай форме сотні людзей далучыліся да трох хваляў абароны Курапатаў. І кожны раз гэтая абарона трымалася на некалькіх актывістах. Напэўна, гэта таксама нешта кажа пра нас як пра нацыю. У той час, калі ўсе (за рэдкім выключэннем) прыхільнікі перамен гавораць, што Курапаты — святое месца для беларусаў, толькі дзясяткі, у лепшым выпадку сотні беларусаў гатовыя за гэтае святое месца змагацца. Ці не таму мы жывем так, як жывем?

Рэжым, я думаю, можа і хацеў бы перасадзіць усіх, але гэтага чамусьці не адбываецца. Па-першае, зачыстка абаронцаў Курапатаў у аўтазакі не мела б такога агульнага ўхвалення сярод саміх рэжымных структур, як якая-небудзь умоўная зачыстка пад адміністрацыяй Лукашэнкі. Па-другое, Курапаты — гэта надзвычай сакральнае месца, у якім немагчыма дзейнічаць так, як сістэма дзейнічае паўсюль.

Толькі ўсведамленне таго, што нароўні з фізічнай рэчаіснасцю ёсць і духовая, можна зразумець значэнне Курапатаў і тое, што вакол іх адбываецца.

***— Ты праз краўдфандынг назбіраў сродкі для ўсталявання больш за 70 крыжоў па перыметры Курапатаў. Аднак улады адказалі на гэта пастановай Саўміну №69, паводле якой гэтыя крыжы могуць быць дэмантаваныя, а на ўсталяванне новых патрэбны дазвол. Да чаго можа прывесці далейшае супрацьстаянне з уладамі?***

— Для мяне самога ўсталяванне гэтых 70 шасціметровых крыжоў — неверагодны Божы цуд, які я яшчэ і цяпер не да канца ўсвядоміў. Я не думаю, што чыноўнікі наважацца вырываць з глебы гэтыя вялізныя крыжы. Колькі яны ні пагражалі нам турмой і спілаванымі крыжамі — крыжы стаяць і велічна ўзносяцца ў неба. Літаральна днямі я атрымаў пастанову з суду, што рашэнне пра знос крыжоў і штраф за іх усталяванне скасаваныя.

***— Гэта досыць пазітыўная інфармацыя. Аднак маем і негатыў: знішчаная «лава Клінтана», на працягу апошніх тыдняў адбыліся сур'ёзныя інцыдэнты і правакацыі падчас Варты. Ці не звязаныя яны між сабой? Ці не было пагрозаў табе і тваёй сям'і?***

— Пагрозаў мне не было. Ці звязаныя гэтыя інцыдэнты, не ведаю. Але для мяне бясспрэчна, што яны з'яўляюцца заканамерным вынікам палітыкі рэжыму. Разбітая ўшчэнт Курапацкая лава памяці ад амерыканскага народа — гэта помнік 25-гадовай эпосе бяспамяцтва.

***— Ворагі Беларусі зацікаўленыя, каб наш народ быў пазбаўлены гістарычнай памяці. Гэта спрыяе праведзенню палітыкі расійскага неаімперыялізму, задэкларыванай Пуціным падчас Мюнхенскай прамовы. Яго памочнік Суркоў у сваім артыкуле зазначыў, што Расія вярнулася да натуральнага стану «великой, увеличивающейся и собирающей земли общности народов». Мы выдатна разумеем: Расія будзе намагацца занурыць Беларусь у сваю ментальную і культурніцкую прастору. Якую ролю тут граюць Курапаты і ці могуць яны быць перашкодай для рэалізацыі імперскіх планаў?***

— Не для таго давеў нас Бог да сённяшняга дня, каб мы зніклі. Не для таго мы перажылі камуністычны генацыд і нацысцкі, каб прыляцела нейкая моль і нас знішчыла. Я веру ў Божы план для Беларусі.

Калі мы размаўляем пра супрацьстаянне з усходнім агрэсарам, то Курапаты для мяне ў гэтым плане важныя тым, што тут выявілася, як нідзе раней, з кім можна ісці ў выведку, а з кім не. Адзін быццам нацыянальны лідар называе абарону Курапатаў «палітычнымі могілкамі», другія нібыта нацыянальныя сілы з абароны Курапатаў збеглі, іншым увогуле абыякава. Але ёсць такі духовы закон жыцця: няверны ў малым — няверны і ў вялікім. Таму гэтыя людзі, якія не захацелі ці не змаглі зрабіць гэтую простую справу — без ніякіх арыштаў і пратаколаў абараніць Курапаты — ці будуць яны бараніць Беларусь? Я думаю, гэта смешна. Таму я ўдзячны Курапатам яшчэ і за тое, што кожны дзень яны выяўляюць, хто ёсць хто.

***— Вернемся да дзеянняў уладаў. Гледзячы на тое, Расія апраўдвае палітыку сталінізму, улады збудавалі ў Беларусі так званую «Лінію Сталіна», руйнуюць нацыянальную адукацыю, збройныя сілы на тэрыторыі нашай краіны кансервуюць практычна ў выглядзе беларускай вайсковай акругі савецкага ўзору... Як успрымаць гэтыя дзеянні?***

— Рэжым турбуецца толькі пра сябе, яго правадыр кіруецца толькі сваёй маніякальнай прагай улады — і ён будзе рабіць толькі тое, што, на яго думку, гэтую ўладу можа падтрымаць. Доўгі час уладу і грашыма, і палітычна забяспечвала Расія, таму кіраўнік Беларусі поўз, як ён сам пра сябе казаў, «у Крэмль на каленях».

Пасля падзеяў ва Украіне мы бачым, што па некаторых пазіцыях нацыянальныя інтарэсы Беларусі супадаюць з яго прыватнымі інтарэсамі. Таму мы назіраем некаторыя магчымасці, якіх не было раней. Вышыванка, БНР–100, помнік Касцюшку — тое, пра што гадоў пяць таму проста марыць было б вар'яцтвам, сёння сталася рэальнасцю. Рэжым мусіў заплюшчваць на гэта вочы, бо мусіў нешта супрацьпаставіць імперскім планам Масквы. Але тут ёсць іншая праблема, якую вельмі слушна акрэслілі: для ўлады свабоднае і незалежнае грамадства — больш значная небяспека, чым Крэмль. Таму, мяркую, рэжым і далей будзе кідацца паміж гэтых двух агнёў, пакуль нейкі з іх на яго не перакінецца.

***— Актывісты Варты зацята супрацьстаяць намаганням дыскрэдытаваць Народны мемарыял праз легалізацыю функцыянавання рэстарацыі «Поедем поедим». Ці бачыш ты, як можна развязаць праблему існавання гэтай забаўляльнай установы ля расстрэльных ямінаў, нават нягледзячы на дзеянні лабістаў рэстарацыі на вышэйшым узроўні?***

— У 2017-м, калі мы ўшасцёх выйшлі на будпляцоўку офіснага цэнтру ў ахоўнай зоне Курапатаў, не было ніякай магчымасці казаць пра нейкую перамогу. Я бегаў і ў запале крычаў будаўнікам: «Згортвайцеся, вы тут нічога не пабудуеце!». А потым падымаўся з ледзяной калюжыны і думаў: «Што я малачу, якое «не пабудуюцца», калі ў іх руках усё?» Але мяне трымала пытанне: «Што мне правільна рабіць?» І я ведаў, што правільна — стаяць, казаць «не» злачынству. Таму мы працягвалі стаяць, і хоць моцы не было ніякай, Бог даў перамогу. Тое ж самае трэба рабіць і сёння: спакойна стаяць, спакойна казаць «не» злачынству, а Бог будзе рабіць Сваю справу.

***— Ці можаш ты агучыць станоўчыя дасягненні Варты абароны Курапатаў.***

— Гісторыя мае акрэсліць.

***— Тады якія адмоўныя чыннікі выявіла Варта абароны Курапатаў?***

— Галізну ўсяго беларускага грамадства. Дзе царква, якая мусіць абвяшчаць праўду? Толькі вернікі адной невялікай царквы праводзяць штонядзелю малітву ў Курапатах. Дзе партыі, у якіх па спісах ад тысячы да пяці тысяч актывістаў? Толькі па некалькі партыйных актывістаў бачым мы пад брамамі рэстарацыі. Зрабілі шэраг памылак і мы самі: праігнаравалі аб'ектыўны стан беларускага грамадства і не ацанілі свае сілы, не прадумалі прымальную для іншых людзей форму абароны Курапатаў. З гэтага таксама трэба рабіць высновы, каб дзейнасць наша была эфектыўнай і не толькі прыносіла нейкі вынік, але і натхняла многіх і многіх іншых, хто ў шэрагу розных прычын пакуль толькі назірае і суперажывае.

***— Каб паспрыяць гэтаму, ты маеш зараз выдатную магчымасць звярнуцца да чытачоў «Новага Часу» з заклікам да веры і дзеянняў.***

— Не ўсе, і, можа быць, нават нямногія могуць пачуць гэта, але хоць нехта ды пачуе. Верце ў Бога і Яго план для Беларусі — гэта напоўніць аптымізмам і дасць вам сілаў рабіць тое, што ў вашых магчымасцях. Сёння кожны, без ніякай небяспекі, можа прыйсці ў Курапаты і падтрымаць абаронцаў. Кожны можа пачаць размаўляць па-беларуску — і гэтым самым лепей за любую зброю ўмацаваць незалежнасць Беларусі.



# Рыэлтараў чакаюць чарговыя змены

Павел КІРЫЛАЎ

**Тых, хто сапсаваны кватэрным пытаннем, хапае ва ўсе эпохі. Цяпер шмат пра такія гісторыі ведаюць рыэлтары. Некаторыя з іх кажуць, што ім малако за шкоднасць трэба задарма выдаваць. Аднак і самі яны часцяком майстры круцельстваў — як фінансавых, так і псіхалагічных. Таму ў хуткім часе чакаюцца змены ў рыэлтарскай дзейнасці. Чаго чакаць гэтаму бізнесу і нам, патэнцыйным удзельнікам здзелак з нерухомасцю?**

«Чорныя рыэлтары» — гэта, канечне, крайняя ступень сапсаванасці беларусаў кватэрным пытаннем. У зводках міліцыі ды судоў, на жаль, такая інфармацыя рэгулярная. Свежы выпадак — у лютаўскім паведамленні з Гомеля. Там расследуецца крымінальная справа аб спробе пецярых чалавек завалодаць кватэрай 56-гадовай мясцовай жыхаркі.

Звычайна махляры адшукваюць так званых «асацыяльных» грамадзян, якія злоўжываюць алкаголем, і рознымі спосабамі змушаюць іх адмаўляцца ад жылля. Пасля перапісання кватэр на іншых небаракаў перасяляюць у горшыя ўмовы або робяць бадзяжнікамі. Здараецца, гаспадароў кватэраў «чорныя рыэлтары» папросту забіваюць і закопваюць недзе ў лесапаласе. Напрыканцы 2018-га быў пакараны смерцю адзін з «чорных рыэлтараў», якія бязмежнічалі на Магілёўшчыне.

А колькі розных штукарстваў, калі рыэлтары разводзяць народ на грошы! І не ўсе, хто зазнаў пустыя выдаткі і займеў локшыны на вушах, скардзяцца на нячыстых на руку агентаў па нерухомасці.

### ТОП скаргаў на рыэлтараў

Днямі Міністэрства юстыцыі падвяло вынікі зваротаў спажыўцоў датычна працы рыэлтарскіх агенцтваў. Скаргі закранулі трацціну з іх. Мінюстам было анансавана, што праблемныя пытанні будуць вырашацца прафілактычнымі захадамі (то бок праверкамі) і карэктаваннем заканадаўства.

Самая распаўсюджаная скарга (23% ад усіх зваротаў) — наконт прымусу патэнцыйных пакупнікоў да заключэння дамовы на аказанне рыэлтарскіх паслуг і аплаты іх кошту. Сутнасць парушэння: рыэлтарская фірма падпісвае з прадаўцом дамову па садзейнічанні продажу яго нерухомасці, абавязваецца знайсці пакупніка, зладзіць агляды аб'екта, перамовы па куплі-продажу і дапамагчы ў афармленні патрэбных дакументаў. Паводле Правілаў ажыццяўлення рыэлтарскай дзейнасці, гэта ўсё паслугі, якія аплачвае ўласнік прадаванай нерухомасці.

Але што робяць рыэлтары? Калі знаходзіцца пакупнік, яму кажуць, што набыць яе можна, толькі заключыўшы дамову з рыэлтарскай арганізацыяй і аплаціць яе паслугі. Калі пакупнік адмаўляецца, то верагодная здзелка наўмысна зрываецца. Рыэлтар можа папросту не сказаць прадаўцу, што яго домам ці кватэрай цікавіліся. «Указаныя дзеянні з'яўляюцца непраўмернымі і накіраваныя на спагнанне двайной аплаты за аказанне рыэлтарскіх паслугаў: і з прадаўца аб'екта нерухомасці, і з пакупніка», — зазначаюць у Мінюсце.

На другім месцы — скаргі на размяшчэнне няпраўдзівай рэкламы аб'ектаў нерухомасці і неналежная якасць аказаных рыэлтарскіх паслугаў — 19,6%. Распаўсюджаная схема: рэкламаваныя кватэры ў арэнду — выдуманыя. Гэта робіцца для завабілівання кліентаў нібыта вялікай колькасцю аб'ектаў у базе прапанаў рыэлтарскай фірмы. Калі чалавек тэлефануе і цікавіцца ўпадабанай кватэрай, агенцтва нерухомасці адказвае, што яна ўжо здадзеная. Але, маўляў, ёсць іншыя файныя варыянты. Праўда, інфармацыю пра іх можна атрымаць толькі пасля заключэння дамовы і аплаты гэтых інфармацыйных паслугаў.

Дзеля гэтых жа мэтаў можа капіявацца рэклама аб арэндзе аб'ектаў, размешчаная іх уласнікамі, у якіх ніхто не пытае згоды, або з замежных сайтаў, калі замест мінскай кватэры публікуецца апісанне якой-небудзь маскоўскай. Дарэчы, мой знаёмы скардзіўся на такое аказанне інфармацыйных паслугаў: яму паведамлялі тэлефоны гаспадароў цікавых яму аднапакаёвых кватэраў, проста беручы актуальныя аб'явы з розных сайтаў. То бок, за інфармацыйныя паслугі коштам 5 базавых велічыняў выдаваўся пошук у інтэрнэце, што можа зрабіць кожны самастойна.

Распаўсюджаны ход рыэлтараў: пісаць у аб'яве, што кватэру здае ў арэнду ўласнік, але пры тэлефанаванні слухаўку здымае агент па нерухомасці. А там ужо залежыць ад таго, ці зможа ён забалбатаць чалавека да падпісання дамовы.

Падсумаванне Мінюсту адназначнае: «Рыэлтарская арганізацыя мае права рэкламаваць толькі той аб'ект, у дачыненні да якога заключана дамова на аказанне адпаведных рыэлтарскіх паслуг яго ўладальніку. Не дапускаецца размяшчэнне рэкламы, якая ўтрымлівае хлусілвыя і іншыя недакладныя звесткі. Калі аб'ект сапраўды ўжо здадзены (прададзены), то рэкламавацца ён не павінен».

### Хітрыя і патрэбныя

Агенты па нерухомасці, каб зарабляць, павінны быць не толькі добрымі псіхолагамі, але і акцёрамі. Бывае, агенцтвы падчас скачкоў попыту ладзяць спектаклі на ажыятаж: супрацоўнікі ці сябры супрацоўнікаў падчас прыходу новага кліента імітуюць падпісанне дамовы на куплю.

Пачытаўшы пра выпадкі «разводаў» з боку агентаў па нерухомасці, людзі вырашаюць, што будуць усё рабіць самі. Па законе, каб прадаць кватэру ці купіць, паслугі рыэлтара не патрэбныя. Што праўда, калі вы, напрыклад, хочаце прадаць лецішча, але не маеце шмат вольнага часу на паказы яго патэнцыйным пакупнікам ці не зможаце не сказаць праўду пра не надта істотныя, але мінусы дома ці ўчастка, то хай гэтым зоймецца адмысловец. Калі ж вы пакупнік, то хай лепш спецыяльна навучаныя людзі праверацьчысціню дакументаў на ўпадабаную вамі нерухомасць.

**У падрыхтаваным праекце пастановы Савета міністраў ёсць пункт пра недапушчальнасць для рыэлтараў выступаць па адной дамове на баку і прадаўца, і пакупніка. Многія фірмы непакояцца наконт істотнага падзення даходаў — да 30%. Праўда, не выключана, што будзе знойдзены нефармальны спосаб абыходзіць гэтую забарону**

Гэта, у першую чаргу, паперы на куплю, прыватызацыю ці спадчыну, тэхпашпарт на кватэру. А яшчэ прадавец павінен быць дзеяздольным — даведка з псіхічнага і наркалагічнага дыспансераў будзе нялішняй. Натуральна, трэба праверыць праз Дзяржрэестр нерухомасці, ці не закладзеная кватэра ў банку. І гэта не ўсё, але, калі адчуваеце ў сабе сілы і кампетэнцыю справіцца з такой бюракратыяй, — значна зэканоміце на рыэлтарскіх паслугах. Дарэчы, з пэўнай гарантыяй агенцтва (пералік, праверка сапраўднасці купюраў і гэтак далей) адбываецца і перадача грошай пры куплі-продажу.

### Змены і незадаволенасць рыэлтараў

Цяпер падрыхтаваны праект пастановы Савета міністраў з пунктам пра недапушчальнасць для рыэлтарскай арганізацыі выступаць па адной дамове на баку і прадаўца, і пакупніка. Многія фірмы супраць, бо непакояцца наконт істотнага падзення даходаў — да 30%. Некаторыя наогул знікнуць. Праўда, не выключана, што будзе знойдзены нефармальны спосаб абыходзіць гэтую забарону. Ці нават легальны: напрыклад, рыэлтарскія агенцтвы пачнуць ствараць пры сабе фірмы-«дочкі», якія будуць займацца менавіта абслугоўваннем пакупнікоў.

Праектам прадугледжана таксама права рыэлтарскіх кантораў самастойна зацвярджаць тарыфы паслугаў, але ў межах максімальна дапушчальных, якія будуць устаноўленыя. Гэта значыць, што тарыфы будуць вызначацца падчас перамоў рыэлтараў і прадаўцоў. Хоць сярод саміх рыэлтараў ёсць і дзве іншыя пазіцыі — захаваць цяперашнія вызначаныя тарыфы і наогул іх адмяніць, каб кошт паслугаў вызначаўся рынкам. Паводле міністра юстыцыі Алега Сліжэўскага, дзяржава пакіне рынак жылой нерухомасці без кантролю не можа, бо гэта значная каштоўнасць для людзей, якая вымагае пэўных гарантыяў.

Цяперашнія тарыфы дзейнічаюць з 2008 года. З прадаўца бяруць дыферэнцаваную стаўку — 1–3% у залежнасці ад кошту нерухомасці. Пры гэтым чым большы кошт — тым меншы працэнт. Рыэлтарскія агенцтвы крытыкуюць такі прынцып, апелюючы нават да яго сацыяльнай несправядлівасці. І прапануюць усталяваць стаўку 4% — адзіную на ўсе аб'екты. Гэта дапаможа многім рыэлтарскім арганізацыям выжыць, калі ім забароняць выступаць у адной і той жа здзелцы на баку і пакупніка, і прадаўца.

І пры канцы — прагноз на пакупніцкую актыўнасць і, адпаведна, паводзіны коштаў на жыллё на 2019 год. Усё будзе залежаць ад эканомікі. Сачыце за такімі чыннікамі: рост заробкаў, стабільны курс долара і даступнасць крэдытаў крыху падвысяць попыт. Кошты, на думку экспертаў, не зменяцца.

Дарэчы, паводле даследаванняў групы кампаній "Твая сталіца", сёння кошт кватэры — не ключавы фактар у пакупніка для прыняцця рашэння. Аналітыкі падаюць такі расклад датычна Мінска: прымальны кошт — 25%, развітая інфраструктура і асаблівыя ўмовы аплаты (ад крэдытавання да растэрміновак) — па 22%, будаўнічая гатоўнасць дома — 19% і блізкасць да метро — 12%.

**Дзесяць гадоў таму за дыктоўку ў Дзень роднай мовы маглі калі не на Акрэсціна адправіць, то лёгка выпісаць штраф. А сёлета ўпершыню да святкаванняў далучылася Акадэмія навук**



# Прафесар Мікола Савіцкі: Аснова дзяржаўнай ідэалогіі — страх

Дзіяна СЕРАДЗЮК



**Спецыяліст у галіне эканамічнай інфарматыкі Мікола Савіцкі адным з першых стаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску. Праз прынцыповасць у нацыянальных пытаннях ён паплаціўся месцам ва ўніверсітэце. Але нават зазнаўшы рэпрэсіі, Савіцкі працягнуў працаваць на ніве Адраджэння. Сёлета Мікалай Іванавіч адзначыў 85-годдзе, і з гэтай нагоды падзяліўся сваімі ўспамінамі і сваім бачаннем таго, як Беларусь можа стаць беларускай і выйсці з-пад расійскага ўплыву.**

## Што палякі, што Саветы...

Мікола Савіцкі нарадзіўся ў Заходняй Беларусі ў фальварку Гарадок на Віцебшчыне, ля мяжы з Саветамі. Сям'я была беззямельная, і бацька будучага прафесара арандаваў зямлю ў пані, якая сама жыла ў Вільні. Каб плаціць за зямлю, маці даводзілася мыць бялізну польскім пamежнікам. Паланізацыя была больш агрэсіўнай, больш рэакцыйнай у параўнанні з русіфікацыяй, перакананы Мікола Савіцкі. У той жа час ён узгадвае, што мэтанакіраванага выхавання беларускай самасвядомасці ў іх сям'і не было.

— І маці, і бабуля казалі: «Мы тутэйшыя» і «Мы ліцвіны». Але апалячванне не ўспрымалася, не клалася на светапогляды маіх бацькоў.

Затое моцна замацаваліся ў свядомасці нормы народнай педагогікі. Напрыклад, нельга было браць чужога, крадзеж — вялікі грэх. Нельга было хадзіць па пасеяных палосах жыта — як сваіх, так і суседскіх. А калі трэба было прайсці, каласы абавязкова расхіналі па баках, каб ніводнага не зламіць. Нават на дрэва залезці ў грубым вясковым абутку — грэх, бо падэшва магла пашкодзіць кару. Культывавалася павага да старэйшых: з кім бы дзіця ні сустрэлася, абавязкова мусіла павітацца.

— Цяпер таго ўжо няма, мараль разбураная, бальшавізм яе разбурыў. Пры палякох забаранялася ўсё нацыянальнае, яны казалі, што праз 20 гадоў на «ўсходніх крэсах» ніводнага беларуса не застанецца. Але яны неслі культуру: патрабавалі, каб перад хатай быў палісаднік, каб кожны дзень мялі вуліцу.

Мікола Савіцкі ўзгадвае яшчэ такі момант: калі хадзіў у школу, у маёнтку Палівачы (цяпер станцыя па дарозе з Маладзечна на Полацк) яшчэ стаяў дом, дзе нарадзіўся бацька беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі. Міколава бабуля часта ўзгадвала, як танцавала з Буйніцкім восем кален кадрылі.

Пасля прыходу «другіх Саветаў» у маёнтку Буйніцкага арганізавалі ферму, потым гістарычны будынак знішчылі і ў 1970-х пабудавалі новыя фермы. Сёння ўжо разбураныя і яны...

— Мы хоць і бедна жылі, але бальшавікоў не чакалі, — узгадвае Мікалай Іванавіч з'яўленне савецкай улады. — Быў страх. Яшчэ з 1918 года людзі памяталі, што Саветы неслі разбурэнне і ўсё забіралі.

Не забыліся ў сям'і Савіцкіх і на тое, што два Міколавы дзядзькі, Антон і Пётр, яшчэ да 1939 года перайшлі мяжу з Саветамі і зніклі. Потым, ужо пасля смерці Сталіна, Пётр вярнуўся — пасля высылкі ў ГУЛАГ. Аднаго толькі факту нараджэння ў Заходняй Беларусі было дастаткова, каб запісаць чалавека ў польскія шпіёны. А лёс дзядзькі Антона невядомы да гэтага часу.

## «У кожнай групе былі стукачы»

Нягледзячы на 85 гадоў за плячыма, прафесар Савіцкі штодня займаецца спортам (у кватэры нават ёсць «спартзала», дзе ён дэманструе нам некалькі фізічных практыкаванняў), шмат ходзіць пешшу, а па хаце перамяшчаецца выключна подбегам. Але і ў простых радасцях Мікола Іванавіч не адмаўляе ні сабе, ні гасцям — і падлівае нам у каву рыжскі бальзам.

«Хопіць ужо дзяцініцца», — ласкава ўшчувае прафесара жонка Глафіра Вікенцьеўна, падаючы нам духмяны напой, звараны ў кавамашыне. Увогуле, у кватэры Савіцкіх тэхнікі не цураюцца, сябруюць з інтэрнэтам, пільна сочаць за навінамі ў краіне і свеце. Нездарма Мікола Іванавіч усё жыццё прысвяціў інфармацыйным тэхналогіям, а Глафіра Вікенцьеўна, якая таксама мае прафесарскую ступень, і па сёння выкладае ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. У Дзень роднай мовы яна нават чытала студэнтам лекцыю па эканамічным аналізе па-беларуску.

**Як бы многія ні стараліся адасобіць мову ад палітыкі, Мікола Савіцкі перакананы, што гэта немагчыма, бо «мова — гэта класічная палітыка». Прафесар тлумачыць гэта на прыкладзе той жа ідэалогіі «рускага міру», у аснове якой — абарона рускай мовы і яе носьбітаў па-за межамі Расіі**

— Я спачатку распавяла пра гэты дзень і пра тое, як важна нашу мову шанаваць. А калі сказала, што праведу лекцыю па-беларуску, усе адказалі: «Ура!». Хаця ў першы навучальны дзень, калі запытвалася, на якой мове выкладаць, толькі адна дзяўчына захацела па-беларуску, — распавядае гаспадыня.

Пасля таго, як з мужам у 2001 годзе ў БДЭУ не працягнулі кантракт (а выкладаў ён там з 1964 года), паўстала пытанне, як карміць сям'ю. І Глафіра Вікенцьеўна мусіла адмовіцца ад выкладання па-беларуску на карысць захавання працоўнага месца. І па сённяшні гэта для яе вялікі боль.

— Мяне звольнілі па моўнай і нацыянальнай прыкмеце, — перакананы Мікалай Іванавіч. — Я з 1988 года выкладаў па-беларуску і заклікаў студэнтаў да абуджэння. Калі былі прэзідэнцкія выбары, сабраў 300 подпісаў за Пазьняка. Увогуле, вёў актыўную дзейнасць — гэта многім не падабалася. У кожнай акадэмічнай групе быў адзін, а тое і два стукачы. Мяне трывалі, а потым адправілі юрыдычна на пенсію.

Спадар Мікола цяжка перажываў сваё звальненне, але ў той жа час лічыць яго «ўнутраным патрыятычным подзвігам». Дый навуковую дзейнасць не спыніў: працягваў працаваць над метадычнай базай, выдаваў слоўнікі па інфарматыцы на беларускай мове. Апошняя на сёння праца — сумесная з гісторыкам Леанідам Лычом кніга «Улады дыялог праігнаравалі (2015 — 2018)», прысвечаная пашырэнню ўжытку беларускай мовы, — выйшла сёлета.

## «Мова — гэта палітыка»

Напачатку 1990-х гадоў Мікола Савіцкі ўзначальваў гарадскую арганізацыю Таварыства беларускай мовы і мог свабодна ўваходзіць ва ўсе аддзелы аду-

кацыі. Аднак калі ён прапанаваў выкладанне інфарматыкі на беларускай мове, яму запярэчылі: маўляў, няма распрацаванай тэрміналогіі. Прафесара гэта закранула — настолькі, што ён заняўся стварэннем слоўнікаў па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы.

— У той час была распрацаваная дзяржаўная праграма тэрмінам ад 3 да 10 гадоў па пераводзе ўсіх сфер грамадскага жыцця на беларускую мову. Нейкага арганізаванага супраціву беларусізацыі да прыходу Лукашэнкі не было. Міліцыя ўжо амаль гаварыла (прынамсі, імкнулася) па-беларуску, на беларускай мове пісалі справаздачы!

У студэнцкім асяроддзі выкладанне па-беларуску збольшага было ўспрынята добра.

— Калі некалькі студэнтаў уздымаліся і казалі «читайте нам на нормальном языке», я не сварыўся, а казаў: «Ці магчымая была б такая сітуацыя ў Сарбоне, калі б прафесар чытаў лекцыю на французскай мове, а студэнты-французы заклікалі б чытаць на нейкай іншай?» — распавядае прафесар Савіцкі пра свой досвед выкладання па-беларуску.

Хаця — цяпер у гэта складана паверыць — былі часы, калі ён сам імкнуўся «пазбавіцца беларускага акцэнту». Падчас навучання ў аспірантуры напачатку 1960-х гадоў Мікола Савіцкі жыў у Маскве, і, як ні дзіўна, нацыянальная свядомасць напаткала яго менавіта там. Сярод кніг, што аспірант Савіцкі замаўляў у бібліятэцы, нейкім чынам апынулася «Новая зямля» Якуба Коласа. Будучы прафесар чытаў яе ў часы адпачынку. Паэма сталася такой блізкай для яго, што міжвольна пачаў задумвацца: чаму ўсе народы жывуць у сваіх мовах, а ён — не?

— Потым, у Мінску, апроч абавязковых «Правды» і «Известий», стаў выпісваць «Звязду», іншыя беларускамоўныя выданні. Гэта быў нейкі ўнутраны покліч, — кажа прафесар, які дасюль нават сабе не можа патлумачыць, што стала для яго штуршком вяртання да каранёў.

Увогуле, мова, лічыць Савіцкі, — аснова нацыянальнай культуры, гарант і найважнейшы складнік суверэнітэту краіны. Але на цяперашні рост нефармальных моладзевых ініцыятыў у падтрымку нацыянальнай мовы і культуры прафесар глядзіць з пэўнай доляй скепсісу, хаця, безумоўна, радуецца іх узнікненню і сам часцяком наведвае курсы «Мова Нанова».

— Ад інтэлігенцыі, проста свядомых людзей узнікаюць розныя ініцыятывы, бо ў кожным чалавеку на генным узроўні захоўваецца нацыянальны дух. І ўлада такім чынам проста дае спусціць пару, таму і не забараняе такія пачынанні. Бо дзесяць гадоў таму за дыктоўку ў Дзень роднай мовы маглі калі не на Акрэсціна адправіць, то лёгка выпісаць штраф. А сёлета ўпершыню да святкаванняў далучылася Акадэмія навук. Але гэта ні на што не паўплывае, — канстатуе Мікола Савіцкі.

На яго думку, вырашальную ролю ва ўмацаванні мовы і культуры ўсё ж павінна адыграць дзяржава. Інтэлігенцыя можа самаарганізавацца, але пакуль беларусы не гатовыя паўтарыць подзвіг польскай «Салідарнасці», лічыць прафесар.

— Вось Трусаў стварыў Нацыянальны ўніверсітэт. Але ён прыватны! Хочаце — адкрывайце, але ж як яго адкрыць без грошай, без памяшкання?..

Як бы многія ні стараліся адасобіць мову ад палітыкі, Мікола Савіцкі перакананы, што гэта немагчыма, бо «мова — гэта класічная палітыка». Прафесар тлумачыць гэта на прыкладзе той жа ідэалогіі «рускага міру», у аснове якой — абарона рускай мовы. Ці на прыкладзе ўтварэння дзяржавы Ізраіль, якое пачалося менавіта з аднаўлення старажытнай мовы іудзеяў — іўрыту.

## Ці ёсць жыццё пасля акупацыі?

— Яшчэ Маркс сказаў, што краіна не можа быць незалежнай, калі на яе тэрыторыі прысутнічае хаця б адзін бот замежнай дзяржавы. А ў нас жа не тое што бот, а цэлыя войскі, — разважае спадар Мікола.

Ён часта паўтарае, што Беларусь цяпер знаходзіцца пад расійскай акупацыяй. І каб вызваліцца з-пад яе, трэба пазбавіцца страху. Бо пасажы пра тое, што без расійскай нафты і газу Беларусь не пражыве, — не больш чым замбаванне. Вунь, некалі думалі, што і Польшча не здолее існаваць без Расіі, прыводзіць прыклад навуковец:

— Калі развалілася Варшаўская дамова, палякі масава ехалі ў Беларусь на закупы і ад нас усё везлі ў Польшчу. Са студэнцкіх інтэрнатаў зніклі коўдры, са сталовых — відэльцы, усё прадавалі. А цяпер дзе Польшча і дзе Беларусь?..

Галоўным рэсурсам, які маюць беларусы і які павінны выкарыстаць для ўмацавання суверэнітэту, на думку прафесара, з'яўляецца розум. Апроч таго, у Беларусі найбагацейшая прырода, патэнцыял якой можна выкарыстоўваць для развіцця турызму, калійныя ўгнаенні, жалезныя руды...

Страх як аснова дзяржаўнай ідэалогіі фармаваўся ў пасляпэравалюцыйныя часы. У Беларусі ж рэжым Лукашэнкі працягвае яго ўмацоўваць.

— Аснова ідэалогіі Лукашэнкі — страх. Паглядзіце любую нараду па тэлебачанні: на яго ўсе баяцца вочы ўзняць. Ды і сам ён сядзіць у страху страціць уладу, абмытую крывёй Ганчара, Захаранкі...

## У любы момант можа адбыцца «выбух»

Яшчэ з адраджэнскіх часоў Мікола Савіцкі не губляе цікаўнасці да грамадска-палітычнага жыцця. Ён добра памятае нацыянальны ўздым пачатку 1990-х, і цяпер яшчэ бярэ ўдзел у акцыях салідарнасці з палітвязнямі, выходзіць на святкаванне Дня Волі і Дзяды. Кажа, што заўсёды імкнецца прысутнічаць на месцы падзей асабіста. Але адзначае, што грамадска-палітычная сфера цяпер рухаецца да катастрофы.

— Не можа быць толькі дэградацыі ўлады ці толькі дэградацыі палітычнай сістэмы, ці толькі дэградацыі сярэдняй альбо вышэйшай школы. Гэтая дэградацыя ў палітычнай сістэме адбылася чвэрць стагоддзя таму і працягваецца ў грамадскім жыцці, у тым ліку і ў апазіцыі, — мяркуе прафесар.

Але дадае, што ў любы момант можа адбыцца «выбух», як гэта здарылася напачатку 1990-х гадоў, калі на вуліцу ў Мінску выйшлі працоўныя. Ён прыгадвае, што ўбачыў калону людзей з чацвёртага паверха «Наргасу» на Партызанскім праспекце, дзе тады вёў лекцыю. Праспект увесь быў запоўнены людзьмі.

— Я кінуў лекцыю і пайшоў да іх, і быў такі ўздым, што я прайшоў з імі да Дома ўраду. Якая тады была самаарганізацыя — гэта трэба было бачыць!

Праўда, у той час людзей на вуліцу вывела цяжкае матэрыяльнае становішча. Цяпер такім чыннікам, на думку прафесара, можа стаць асэнсаванне немагчымасці далей трываць нацыянальную знявагу. Падстаў для гэтага дастаткова: функцыянаванне таго ж рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем поедим» у Курапатах ці разбурэнне «лавы Клінтана» ў нацыянальным некропалі.

— «Поедем поедим» — адзін з праектаў «рускага міру», тут няма сумневу. Яго задача — выклікаць раскол. Чым гэта ўсё скончыцца? Не будзе там рэстарану. Не думаю, што будынак разбураць, была ж нармальная прапанова ў людзей — зрабіць там музей, — разважае суразмоўца.

Кажучы пра ўсталяванне дзяржаўнага мемарыяльнага знаку ў Курапатах і адначасовае ігнараванне ўладамі пратэстаў каля рэстарацыі, Мікола Савіцкі ўжывае слова «нялюдскасць».

— Дзяржава ўсё робіць не па-людску. Калі прэзідэнт іншай дзяржавы паставіў лаўку, а ты нават ані разу не быў у Курапатах — няўжо табе не сорамна? Нармальнай логікай гэтага не патлумачыць.

Прафесар прыгадвае падзеі ў Курапатах падчас першай акцыі на Дзяды ў 1988 годзе, калі ўсе сталі на калені, і Савіцкі ўпершыню ўбачыў бел-чырвона-белы сцяг. Як і для многіх, для Міколы Савіцкага гэтая акцыя стала адпраўным пунктам нацыянальнага Адраджэння.

— Тады людзей вяла, мабыць, нейкая сакральная сіла. У тыя часы грамадства было на хвалі антыкамунізму, а вось нацыянальная свядомасць людзей яшчэ была на ўзроўні, ніжэйшым за сённяшні.

Мікола Іванавіч перакананы: рана ці позна Беларусь будзе беларускай, але для гэтага павінна адбыцца змена ўлады. А вось Глафіра Вікенцьеўна не надта падзяляе думкі мужа: яна лічыць, што пакуль годнай альтэрнатывы на пасаду кіраўніка дзяржавы ў Беларусі няма, дый Расія так проста не пагодзіцца аслабіць уплыў на нашу краіну. Але гэта не значыць, што трэба змірыцца і бяздзейнічаць, бо мы не ведаем, якія змены чакаюць нас заўтра. Наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай, якое адбылося ў 1990 годзе, таксама некалі ўяўлялася немагчымым, тым не менш, здзейснілася гэта яшчэ пры панаванні камуністычнага рэжыму. Таму — захоўваем спакой і працягваем рабіць сваю справу.

**Фота Дзіяны Пінчук**






Савіцкі Мікалай Іванавіч, спецыяліст у галіне эканамічнай інфарматыкі. Кандыдат эканамічных навук (1963), дацэнт па кафедры «Механізацыя ўліку і вылічальная тэхніка» (1966), прафесар па кафедры «Вылічальныя машыны і праграмаванне на ЭВМ» (1982 г., ВАК СССР). Стваральнік і арганізатар у Беларусі першай кафедры «Механізацыя ўліку і вылічальная тэхніка» (1965), ад якой у БДЭУ адгалінаваліся іншыя кафедры інфармацыйных тэхналогій. Першы кандыдат навук па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь і 22-гі ў СССР. У 2009 годзе абраны правадзейным сябрам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (акадэмікам).

Падрыхтаваў 4 кандыдатаў навук і 9 у мэтавай аспірантуры г. Масквы (у той час у Беларусі не было савета па абароне). Аўтар больш за 100 навуковых прац і шэрагу публіцыстычных артыкулаў па пытаннях адраджэння беларускай мовы і культуры.

У сваёй галіне ведаў першым у Беларусі стварыў комплекс навукова-метадычнага забеспячэння вучэбнай дысцыпліны «Вылічальныя машыны і праграмаванне» для эканамічных ВНУ. Аднайменны падручнік з грыфам Міністэрства адукацыі БССР вытрымаў два выданні (1973, 1980). Суаўтар першага навучальнага дапаможніка з грыфам курса «Машынная апрацоўка эканамічнай інфармацыі ў галінах народнай гаспадаркі». Выдаў падручнік для тэхнікумаў «Техника вычислений и механизация учета» з саюзным грыфам, які вытрымаў тры выданні (М.: Статистика, 1969, 1974, 1979).

Браў удзел у распрацоўцы навукова-метадычных асноў для развіцця беларускамоўнай навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы. Аўтар «Руска-беларуска-англійскага слоўніка па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы» (1992 г.), вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове па аднайменных вучэбных прадметах: «Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка» (1996 г.), «Тэхналогіі арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак» (2000 г.). Адзін з першых у Беларусі ў 1989 годзе пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску.

Беларускамоўнае выкладанне інфарматыкі ва ўніверсітэце было спынена ў 2001 годзе. Рэктар Р.М.Карсека, першы прарэктар С.П.Гурко, загадчык кафедры А.М.Маразевіч па палітычных матывах «не прадоўжылі кантракт» адзінаму на той час беларускамоўнаму прафесару на кафедры Інфармацыйных тэхналогій Міколу Савіцкаму. На радзіме ён не запатрабаваны, але пасля «адлучэння» ад працы падрыхтаваў і надрукаваў за мяжой (у Расіі) два вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ ў поўнай адпаведнасці з тыповымі праграмамі: «Технологии организации, хранения и обработки данных» (2001) і з грыфам Мінадукацыі Расіі «Экономическая информатика» (2003, 2004).

У 2009 годзе выйшаў «Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы» (Мн.: «Энцыклапедыкс»). У ім больш за 2500 найбольш ужывальных тэрмінаў. У 2014 годзе ў выдавецтве «МЕДЫЯЛ» выйшла 2-е выданне, дапоўненае і перапрацаванае, у якім больш за 3000 слоў, беларускі класічны правапіс.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРГ. Фемінізаваць знешнюю палітыку

З такой незвычайнай ініцыятывай выступіла фракцыя Зялёных у нямецкім Бундэстагу. Пад гэтым азначэннем маецца на ўвазе перагляд прыярытэтаў работы МЗС Германіі на карысць падтрымкі ва ўсім свеце інтарэсаў жанчын, дзяўчат і групаў, якія штучна маргіналізуюцца ўладамі. Былі агучаныя і канкрэтныя крокі, якіх павінен дамагацца МЗС ФРГ. Па-першае, ведамства мусіць імкнуцца, каб Савет бяспекі ААН рэгулярна разглядаў жаночае пытанне, і рабілі гэта толькі дыпламаткі. Лічыцца, што павелічэнне квоты жанчын у нямецкім дыпкорпусе дапаможа хутчэй дасягаць мірнага кансэнсусу, паколькі жанчыны па прыродзе больш схільныя да мірных рашэнняў. Не павінна стаяць убаку і Мінабароны. На думку Зялёных, у Бундэсверы ў перспектыве павінны быць створаны ваенныя фармаванні, які б складаліся выключна з жанчын. Прычым выкарыстоўваць гэтыя злучэнні прапануецца таксама падчас замежных місій. Цяжка сказаць, наколькі пажаданні Зялёных будуць пачутыя. Цалкам магчыма, што гэта частка піяр-падрыхтоўкі да 8 сакавіка. Мяркуючы па маштабах мабілізацыі, у гэтым годзе жаночы дзень будзе адзначацца вельмі шырока.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. На Майдане забівалі людзі Клічко?

Пяцігадовы юбілей перамогі Еўрамайдана не абышоўся без сенсацый. Адну з іх прапанаваў Алег Цароў — ён калісьці быў сярод лідараў Партыі рэгіёнаў, а цяпер жыве ў Расіі. У межах прэс-канферэнцыі ён прапанаваў сваю версію першых забойстваў на Майдане. Паводле яго, забойствы здзейсніла служба бяспекі Віталя Клічко, якую ўзначальваў экс-кіраўнік СБУ Валянцін Налівайчанка. Перад апошнім, нібыта, паставілі задачу — надаць падзеям на Майдане міжнародны статус за кошт смерцяў неўкраінцаў. Ахвярамі Налівайчанкі ў выніку апынуліся ўкраінец армянскага паходжання Сяргей Нігаян і беларус Міхаіл Жызнеўскі. Версія Царова досыць хісткая не толькі праз палітычную ангажаванасць яе аўтара. Стварэнне і фінансаванне «эскадронаў смерці» не вельмі пасуе стылю Віталя Клічко. У дадатак рэзананс маглі выклікаць забойствы больш-менш вядомых асобаў. Калі Сяргей Нігаян, які пранікнёна чытаў у інтэрнэце вершы Шаўчэнкі, яшчэ меў нейкі статус, то імя Жызнеўскага на той час наўрад ці каму-небудзь штосьці казала. Зрэшты, падобныя версіі будуць узнікаць рэгулярна, пакуль не будзе скончана расследаванне забойстваў на Майдане. Тое, што за пяць гадоў пасля падзей у Кіеве ўкраінскае правасуддзе так не прад'явіла абвінавачванні канкрэтным падазраваным, арганізацыя Amnesty International напярэдадні юбілею назвала «ганьбай».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Нашчадкі рабоў атрымаюць кампенсацыі

У выпадку перамогі кандыдата ад Дэмакратычнай партыі на выбарах прэзідэнта ЗША ў наступным годзе, афраамерыканскія грамадзяне могуць палепшыць свой фінансавы стан. Практычна ўсе прэтэндэнты ў кандыдаты ад дэмакратаў падтрымліваюць ідэю кампенсацыі афраамерыканцам за дыскрымінацыю іх продкаў. Акрамя таго, кампенсацыі дапамогуць, як лічаць дэмакраты, прадэманстраваць роўнасць усіх грамадзян ЗША. Палітыкі спадзяюцца, што датацыі дапамогуць падняць жыццёвы ўзровень прадстаўнікоў «чорнай камуны». Як і трэба было чакаць, рэспубліканцы ўбачылі ў рытарыцы дэмакратаў банальную спробу даць хабар чарнаскураму электарату. Канал Fox News — рупар рэспубліканцаў, ужо заявіў, што бюджэт краіны праграмы кампенсацый проста не пацягне. Цікава, што супраць кампенсацый выступаюць... чарнаскурыя палітыкі. Напрыклад, экс-прэзідэнт Барак Абама. На яго думку, кампенсацыі — хітры ход, каб скараціць ільготы для афраамерыканцаў у іншых сферах.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Крэмль палохаецца панкцюркізму

Напачатку лютага ў расійскіх СМІ і тэлеграм-каналах прайшла інфармацыя: спецслужбы Расіі нечакана заклапаціліся пагрозай панцюркізму — ідэі пра неабходнасць палітычнай кансалідацыі цюркскіх народаў вакол Турцыі. Пазней чуткі пацвердзілі больш сур'ёзныя выданні, якія маюць крыніцы інфармацыі ў расійскай вертыкалі. Тэма з пагрозай з боку Анкары вельмі нечаканая, паколькі яе фонам стала купля Турцыяй у Расіі зенітных ракетных сістэм С-400. Акрамя таго, Эрдаган, хутчэй, арыентуецца на асманскую і ісламскую спадчыну, а панцюркізм — канцэпцыя, якую вызнавалі кемалісты, палітычныя канкурэнты цяперашняга кіраўніка Турцыі. Менавіта пры іх у 1990-я гады Турцыя сапраўды спрабавала ажыццяўляць культурную і эканамічную экспансію ў Сярэдняй Азіі і цюркскіх аўтаноміях Расіі. Аднак на сёння турэцкая прысутнасць у палітычным жыцці РФ практычна не заўважная. Адзінае тлумачэнне таго, што адбываецца, — шчыльныя сувязі Анкары і Кіева, якія падтрымліваюць рух крымскіх татараў.

**Паводле расійскай прэсы**




Фота www.slate.fr

# Прадам штат. Нядорага

Алег НОВІКАЎ

**Луізіяна, Аляска, Фларыда... Гэтыя тэрыторыі — будучыя штаты — у свой час набыў урад ЗША. А цяпер сярод амерыканцаў набірае моду адваротная тэндэнцыя — імкненне прадаваць штаты.**

У савецкім юнацтве аўтара слова «Мантана» гучала вельмі салідна. Так называлася вядомая марка амерыканскіх джынсаў — культавай рэчы ў вачах тагачаснай маладой генерацыі. А за акіянам слова «Мантана», падаецца, ніколі не было такім статусным. Можа таму ідэя прадаць гэты штат суседняй Канадзе знайшла масавую падтрымку ў грамадстве.

Праўда, спачатку ўсё выглядала, хутчэй, як жарт. Форэст Мандэвіль (Forest Mandeville), федэральны чыноўнік і сябра рэспубліканскай партыі, вырашыў арыгінальна адрэагаваць на мінорныя навіны са свету фінансаў — у лютым дзяржаўны доўг ЗША дасягнуў рэкорднага ўзроўню — 22 трыльёны долараў.

Хаця спецыялісты кажуць, што нічога жудаснага тут няма, аднак такая фантастычная сума не можа не выклікаць шоку. Нездарма сярод янкі папулярныя забабоны накont таго, што практыка затыкання ўсіх бюджэтных дзірак друкаваннем долараў — бомба з гадзіннікавым механізмам. Калі не адключыць друкарку, позна ці рана зялёных банкнот будзе так шмат, што іх пакупніцкая здольнасць пачне вагацца.

Разрадзіць, як мінімум часова, напружаную фінансавую сітуацыю Мандэвіль прапанаваў за кошт продажу таго самага штату Мантана. Прыход у бюджэт аднаго трыльёна долараў — столькі плануецца зарабіць на продажы, — маўляў, псіхалагічна супакоіць насельніцтва і бізнес-колы. Адпаведны тэкст петыцыі і быў размешчаны на сайце Change.org.

Наступствы ідэі аказаліся непрадказальнымі. Петыцыя за лічаныя дні сабрала колькасць подпісаў, неабходную для таго, каб на яе адрэагавала ўлада. Аматараў прадаць радзіму аказалася так шмат, што гісторыя стала агульнанацыянальнай інфармацыйнай тэмай.

Праўда, праціўнікаў петыцыі таксама хапае. Не спадабалася ім, напрыклад, тое, што, паводле Мандэвіля, Мантана абсалютна «бескарысная». Аднак менавіта тут знаходзіцца славуты Елаўстонскі нацыянальны парк — міжнародны біясферны запаведнік, аб'ект Сусветнай спадчыны ЮНЭСКА. Увогуле, турызм прыносіць штату каля 5 мільярдаў долараў штогод. У штаце вельмі развіты сектар гідраэнергетыкі. Паводле падлікаў навукоўцаў, прыкладна траціна запасаў амерыканскага вугалю знаходзіцца ў мясцовых нетрах.

З іншага боку, у штаце з насельніцтвам мільён чалавек сапраўды няма буйных агламерацый. Мантана не можа ганарыцца трафеямі сваіх спартовых камандаў. Ніводны амерыканскі прэзідэнт не быў народжаны ў гэтым штаце. Пра перыферыйнасць краю сведчыць маленькі працэнт афраамерыканцаў і мігрантаў сярод насельніцтва. Калі ўзгадваюць пра Мантану, на думку, як правіла, прыходзіць «фермер і яго ранча».

Мантана для некаторых — не самае дно. Ёсць і тыя, хто хацеў бы «штурхнуць» Канадзе не Мантану, а іншы штат. У ліберальнай папулярная думка наконт продажу Аляскі, адкуль выйшла апошняя генерацыя лідараў амерыканскіх кансерватараў. Яны таксама заклікаюць прадаць Тэхас, каб зэканоміць на сцяне супраць мексіканскіх імігрантаў, якую, як вядома, хоча пабудаваць Трамп. Затое кансерватыўная Амерыка марыць, каб нехта набыў Нью-Ёрк або Каліфорнію, якія лічацца інкубатарамі распусты і культурнай дэградацыі.

А што на гэты конт думаюць самі жыхары Мантаны, якая, дарэчы, стала штатам ЗША ў 1889 годзе? Як ні дзіўна, шмат мясцовых не супраць таго, каб стаць канадцамі. Канада для многіх мантанцаў выглядае прыкладам больш-менш сацыяльна арыентаванай дзяржавы. Як вынік, у некаторых штатах (напрыклад, у Каларада або Арэгоне) нават адчуваюць рэўнасць на адрас Мантаны. «Чаму хочуць прадаць Канадзе гэты штат, а не наш?» — абураюцца на форумах.

Гэты праканадскі трэнд выявіўся падчас разгляду петыцыі адпаведным парламенцкім камітэтам штата. Падобны орган, па законе, павінен падтрымаць або заблакаваць заканадаўчыя інтэрнэт-ініцыятывы з адпаведнай колькасцю падпісантаў. Нягледзячы на камічны характар прапановы, пяць з дваццаці прысутных сябраў камітэту падтрымалі праект стаць канадцамі.

Больш за ўсё фінальным вынікам галасавання, напэўна, быў задаволены аўтар петыцыі Форэст Мандэвіль. Ён і не падазраваў, што яго жарт выкліча такую вялікую падтрымку і фактычна створыць пагрозу нацыянальнаму адзінству Злучаных Штатаў. А вось палітолагі, наадварот, засмуціліся. Бурлеск з продажам Мантаны чарговым разам засведчыў працяг палярызацыі светапогляду амерыканцаў на лібералаў і кансерватараў. А паколькі палярызацыя мае геаграфічны характар, зноў не абышлося без прагнозаў наконт новай рэдакцыі грамадзянскай вайны.

Застаецца адзначыць яшчэ адзін сумны факт. Амерыканцы, што заўзята спрачаліся наконт лёсу Мантаны, забыліся: гістарычна гэта зямля належыць не ім, а індзейцам. Іх, дарэчы, і зараз тут хапае. На тэрыторыі штата знаходзіцца 12 рэзервацый, жыхароў якіх ніхто і не падумаў запытаць наконт лёсу іх радзімы.

# Памятаць або забыць?

Алег НОВІКАЎ

**Падаецца, Італія ператварылася ў крыніцу еўрапейскай нестабільнасці. Спачатку ў Рыме падтрымалі пратэсты ў Францыі, што скончылася адкліканнем французскага пасла. Цяпер узнялі памежнае пытанне з балканскімі краінамі-суседзямі.**



Фота www.express.co.uk

**Супярэчнасці італьянскага Дня памяці чамусьці заўважылі толькі зараз. Між тым, грамадскасць неаднаразова пратэставала супраць адзначэння 10 лютага і яго трактоўкі італьянскім афіцыёзам**

«Няхай жыве Трыест, няхай жыве італьянская Істрыя, няхай жыве італьянская Далмацыя, няхай жывуць італьянскія выгнанцы», — так даслоўна гучыць цытата, праз якую выбухнуў скандал. Справа ў тым, што сказаў яе не нейкі Вася Пупкін, а прэзідэнт Еўрапарламента Антоніа Таяні, які, на думку некаторых, рэанімаваў пастулаты ірэдэнтызму — канцэпцыі італьянскіх нацыяналістаў мінулага стагоддзя.

Італьянскія нацыяналісты заўжды лічылі згаданыя ў фразе Таяні землі часткай Італіі. Сапраўды, італьянцы доўгі час былі заўважнай нацыянальнай групай у складзе этнаграфічнай мазаікі Адрыятыкі, моцна ўплывалі на культурны працэс і гаспадарку. Рэалізаваць свае напрацоўкі фанатам ірэдэнтызму ўдалося пасля таго, як у 1941 годзе Югаславія прайграла вайну. Па выніках частка Далмацыі адышла да Італіі, што аргументавалі якраз прысутнасцю тут італьянскай грамады. На захопленых тэрыторыях была распачата палітыка «італізацыі» славянаў аж да татальнай забароны славянскіх моў. Тых, хто не хацеў быць італьянцам, выпраўлялі ў спецыялізаваныя канцлагеры.

Расклад сілаў змяніўся ў 1943-м, калі ў Рыме адбыўся дзяржаўны пераварот — Мусаліні па загадзе караля знялі з пасады прэм'ера і нават пасадзілі пад арышт. На балканскай перыферыі каралеўства пачаўся хаос, чым і скарысталіся партызаны-камуністы Іосіфа Ціта, якія актывізавалі атакі на акупантаў і «пятую калону». Пры гэтым партызаны часцяком кіраваліся катэгарычным прынцыпам: «усе італьянцы — фашысты». Лічыцца, што тамсям мелі месца інцыдэнты, якія можна разглядаць як этнічныя чысткі. Іх ахвярамі аказаліся каля 20 тысяч чалавек.

Пры гэтым камуністы практыкавалі такую форму пакарання, як massacri delle foibe — вядомая з часоў старажытнага Рыму форма забойства, калі трупы або жывых людзей скідвалі ў foibas — глыбокія прыродныя варонкі або шахты. Вось як апісвае такое пакаранне адно з правых італьянскіх выданняў: «Дзясяткі людзей стаяць прывязаныя адзін да аднаго на краі глыбокай расколіны. Партызаны расстрэльваюць толькі першы шэраг палонных, які падае ўніз і цягне за сабой астатніх. Як вынік, многія не паміраюць ад падзення і цяжка параненыя пакутуюць на працягу некалькіх дзён».

Пераследавалі італьянцаў да 1947 года, калі Італія цалкам адмовілася ад балканскіх уладанняў, што справакавала масавую рэпатрыяцыю. На Апеніны тады збеглі каля 300 тысяч чалавек. Яны прынеслі з сабой у тым ліку жудасныя апавяданні пра



**Антоніа Таяні:**
**«Няхай жыве Трыест, няхай жыве італьянская Істрыя, няхай жыве італьянская Далмацыя, няхай жывуць італьянскія выгнанцы»**

massacri delle foibe, якія з часам сталі фішкай праварадыкальнай агітацыі. А правыя партыі патрабавалі ўнесці ў каляндар афіцыйных датаў Дзень памяці італьянцаў — ахвяр югаслаўскіх камуністаў. Партыі мэйнстрыму ігнаравалі падобныя капрызы да канца 1990-х гадоў, калі пачалі залежаць ад галасоў ультраправых дэпутатаў. У выніку ў 2004-м з ініцыятывы Нацыянальнага альянсу такі Дзень памяці сапраўды пачаў штогод адзначацца 10 лютага.

Гучала тады і крытыка рашэння парламенту. Гісторыкі казалі, што дзень памяці быў засяроджаны на асуджэнні югаслаўскага камуністычнага гвалту супраць італьянцаў без якой-небудзь спасылкі на гістарычны кантэкст, ігнараванне ціску на славенцаў і харватаў, якія былі ахвярамі асіміляцыі. Не былі ўзгаданыя злачынствы войскаў Мусаліні ў 1941–1943 гадах.

Так ці інакш, Дзень памяці пачаў адзначацца афіцыйна. І менавіта ў рамках мерапрыемстваў гэтага дня Антоніа Таяні прамовіў сваю скандальную фразу пра італьянскую Істрыю і Далмацыю.

Адказы з Любляны і Заграба былі рэактыўнымі. Славенскі прэзідэнт Борут Пахар напісаў асабісты ліст на адрас італьянскага калегі. У сваім пасланні Пахар выказвае «заклапочанасць з нагоды непрымальных заяў высокапастаўленых прадстаўнікоў Італьянскай Рэспублікі, якія намагаюцца стварыць уражанне, што ў 1943 годзе мела месца «этнічная чыстка». Харвацкае МЗС таксама асудзіла словы Таяні і назвала іх «недапушчальным гістарычным рэвізіянізмам». «Тым больш, калі ён (рэвізіянізм) зыходзіць ад высокапастаўленага чыноўніка, што прадстаўляе Еўрапейскі парламент — адзін з інстытутаў ЕС, які быў заснаваны, каб вайна ніколі не паўтарыліся ў Еўропе», — лічыць афіцыйны Заграб.

Можна зрабіць выснову, што ў Еўропе ўзнікла яшчэ адна кропка напружанасці. Але, магчыма, гэта было прадказальна. Супярэчнасці італьянскага Дня памяці чамусьці заўважылі толькі зараз. Між тым, славенская грамадскасць неаднаразова пратэставала супраць адзначэння 10 лютага і яго трактоўкі італьянскім афіцыёзам. У самой Італіі помнікі ахвярам партызанаў неаднаразова былі аб'ектамі вандалізму з боку мясцовых камуністаў і імігрантаў з краінаў былой Югаславіі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мігель Дыяс-Канель



Можна павіншаваць прэзідэнта Кубы, дзе была прынятая новая рэдакцыя Канстытуцыі. Але, на думку аглядальнікаў, падрыхтоўка да рэферэндуму выявіла з'яўленне на Кубе новай грамадскай сілы, якая патэнцыйна будзе галоўным праціўнікам камуністаў.

Гаворка пра мясцовых пратэстантаў, якім удалося арганізаваць беспрэцэдэнтную для аўтарытарнай краіны кампанію. Ім не спадабалася з'яўленне ў праекце новай Канстытуцыі пункта пра легалізацыю аднаполых шлюбаў. У выніку ўсе кубінскія пратэстанцкія групоўкі аб'ядналіся супраць рэформы. Пры гэтым яны абралі цікавую тактыку: усяляк хвалілі ўрад, падтрымлівалі змены ў Канстытуцыю, але крытыкавалі саступкі сексуальным меншасцям.

Пад такім громаадводам ім удалося сабраць 178 тысяч подпісаў супраць дэфініцыі шлюбу як «саюза паміж двума людзьмі» і перадаць петыцыю ў парламент. Кампанія апынулася настолькі масавай і энергічнай, што ўлады не адважыліся на рэпрэсіі. Не дапамагло нават тое, што гей-шлюбы лабіявала Марыэла Кастра — дачка экс-прэзідэнта Рауля Кастра. У выніку Дыяс-Канель і таварышы вырашылі не раздражняць пратэстантаў. Напярэдадні плебісцыту пункт пра гей-шлюбы замянілі туманнай фразай з абяцаннем разгледзець пытанне правоў геяў у будучыні.

Поспех пратэстантаў дазваляе назіральнікам лічыць іх вядучай апазіцыйнай сілай на Кубе, на якую, дарэчы, можа зрабіць стаўку Вашынгтон. Нядаўна кіраўнік Дзярждэпартамента паабяцаў пасля Венесуэлы разабрацца з Нікарагуа і Кубай.

### Юлія Цімашэнка



Лідарка ўкраінскай апазіцыйнай партыі «Бацькаўшчына» 26 лютага абвясціла пра пачатак імпічменту прэзідэнта Пятра Парашэнкі на падставе вынікаў расследавання журналістаў аб узбагачэнні яго атачэння ў абароннай сферы.

Напярэдадні сайт «Bihus.info» апублікаваў расследаванне, герой якога — сын намесніка сакратара Савета нацбяспекі і абароны Алега Гладкоўскага (чалавек Парашэнкі). Клан Гладкоўскага, калі верыць расследаванню, з'яўляецца непасрэдным удзельнікам мільённых схем па крадзяжы ў абаронным комплексе.

Гэта не адзіны выпад Цімашэнка на адрас Парашэнкі. Раней яна публічна абвінавачала яго ў падрыхтоўцы фальсіфікацый на прэзідэнцкіх выбарах шляхам скупкі галасоў, разавых сацыяльных выплатаў, фармавання ручных выбарчых камісій. Цімашэнка падтрымалі іншыя кандыдаты (у тым ліку лідар гонкі Уладзімір Зяленскі). Нават падпісаны мемарандум кааліцыі "За сумленныя выбары», якая нагадала некаторым кааліцыю, што дзейнічала ў Грузіі супраць Шэварднадзэ, або ў Сербіі супраць Мілошавіча.

Калі «За сумленныя выбары» змогуць пракантраляваць падлік галасоў, то ў Парашэнкі будзе шмат праблем з пралангацыяй паўнамоцтваў. Зрэшты, проста так Банкаўская не здасца. У адказ на абвінавачванні з боку Цімашэнка Служба бяспекі Украіны, кіраўніцтва якой прызначае гарант, заявіла пра электаральныя махінацыі кіраўніцтва яе штаба, за якімі, быццам, стаіць Крэмль.

### Берні Сандэрс



Адзіны сенатар ЗША, які публічна называе сябе сацыялістам, хаця абіраецца па спісах Дэмакратычнай партыі, нягледзячы на свае 77 гадоў, высунуў сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта краіны на выбарах 2020 года.

Цяжка прагназаваць, ці атрымаецца ў Сандэрса ўехаць у Белы дом. У Злучаных Штатах сапраўды назіраецца рост інтарэсу да левых ідэяў, аднак нельга пераацэньваць гэтую з'яву. Але яго кампанія ўжо ўвайшла ў гісторыю. Толькі за першыя 24 гадзіны пасля таго, як Сандэрс абвясціў пра свае прэзідэнцкія амбіцыі, 150 тысяч амерыканцаў ахвяравалі яго выбарчаму штабу чатыры мільёны долараў. Папярэдні рэкорд належаў каліфарнійскаму дэмакрату, які за той жа перыяд сабраў 1,5 мільёна.

Назіральнікі звяртаюць увагу на тое, што сярэдні памер ахвяраванняў склаў усяго 27 долараў. Іншымі словамі, у Сандэрса патэнцыйна вялікая база лакальных актывістаў — важны фактар для паспяховай кампаніі. Ёсць яшчэ адзін цікавы момант: Дональд Трамп, які будзе прадстаўляць на выбарах рэспубліканцаў, палохае амерыканцаў сацыялізмам, называючы Сандэрса самай вялікай пагрозай для Злучаных Штатаў. Паколькі ідэнтычнасць дэмакратаў шмат у чым будуецца на асабістай нянавісці на адрас Трампа, Сандэрс атрымлівае дадатковыя пункты для перамогі ў праймерыз Дэмпартыі.

# Юзаф Пілсудскі.



Алесь КІРКЕВІЧ

**Што агульнага паміж Польшчай Пілсудскага і Беларуссю Лукашэнкі? «Апошняга дыктатара» (разумеем, вызначэнне яўна састарэла) у нас найчасцей параўноўваюць то з Гітлерам, то са Сталіным, то з Чаўшэску… Усе гэтыя прыклады недарэчныя. І размах не той, і рэгіёны іншыя, і стыль не той. А што наконт Пілсудскага?**

Калі ў нас кажуць пра сучасную Беларусь, дык часцяком апелююць крайнімі катэгорыямі: «дыктатура», «дэмакратыя, якая не склалася», «парушэнні правоў чалавека» і гэтак далей. Адначасна аўтары падобных вердыктаў, асабліва з Заходняй Беларусі, часта ідэалізуюць часы панавання тут Польшчы да 1939 года, якая была нібыта «страчаным раем». Усё гэта — толькі палова праўды.

Ёсць пэўныя стадыі сталення краіны як дзяржаўнага арганізму і народа як адзінай крыніцы ўлады ў гэтай краіне. Ніводная краіна Усходняй Еўропы (можа, за выключэннем Чэхаславакіі) у 1920-я гады не склалася як дэмакратыя. Усё аднолькава пачыналася з дэмакратычных спробаў, але нязменна заканчвалася прыходам «моцнай рукі». Сметона ў Літве, Ульманіс у Латвіі, Пілсудскі ў Рэчы Паспалітай.

І гаворка не пра тое, каб зараз персанальна параўноўваць Пілсудскага і Лукашэнку — асабіста яны, хутчэй, супрацьлегласці. Пілсудскі прайшоў падполле, катаргу, вайну. Мог месяцамі не з'яўляцца на публіцы, ігнараваць журналістаў. Урэшце, Пілсудскі не сачыў за сваім здароўем, шмат паліў і пражыў усяго 67 гадоў… А вось створаныя сістэмы і стылі кіравання атрымаліся вельмі падобнымі. Зрэшты, рабіце высновы самі.

## Арганізм, змацаваны асобай маршалка

Польская дзяржава, што з'явілася ў 1918 годзе, складалася з парэштак трох арганізмаў, кожны з якіх меў сваю палітычную традыцыю. Гэта былыя аўстрыйскія тэрыторыі, дзе палякі і раней былі прадстаўленыя ў парламенце. Гэта былыя прускія землі, дзе меліся асобныя польскія дэпутаты, якія далучаліся да нямецкіх фракцыяў. Гэта былая тэрыторыя Расіі, дзе цяжка казаць пра хоць нейкае палітычнае жыццё, апроч удзелу ў працы Думы, якая так і не стала сапраўдным органам улады.

Польскае грамадства зрабіла фантастычную рэч, бо змагло аб'яднацца, нягледзячы на розныя палітычныя традыцыі ды вялікую сацыяльную розніцу. Багатыя і бедныя, рабочыя і абсалютна не дасведчаныя ў палітычным сэнсе сяляне… Акурат на сялян ды рабочых рабілі стаўку бальшавікі — і разглядалі іх як саюзнікаў у барацьбе з маладой польскай «буржуазнай дзяржавай». Але Польшча выстаяла.

У 1919 годзе была прынятая першая Канстытуцыя, а ў 1922-м абраны дэмакратычны парламент. Варта адзначыць, што выбары ў парламент незалежнай Польшчы ў 1922 годзе для жыхароў Заходняй Беларусі сталіся першымі сапраўды дэмакратычнымі выбарамі за ўсю гісторыю (наступныя адбыліся ажно ў 1994 годзе).



**Парадаксальна выглядала пазіцыя сацыялістаў і камуністаў, якія палічылі, што «ў барацьбе супраць рэакцыйнага ўраду варта падтрымаць Пілсудскага». Потым гэта будзе названа «травеньскай памылкай». Памылка каштавала левым дорага, бо акурат яны найбольш пацярпелі цягам кіраўніцтва маршалка**

Важна адзначыць, што незалежная Польшча на пачатку свайго існавання была парламенцкай дэмакратыяй. Гэта была даніна традыцыі Рэчы Паспалітай. Сейм і Сенат абіраліся паводле партыйных спісаў, туды трапілі цалкам розныя плыні. Гэта і «эндэкі» (нацыянал-дэмакраты), і хадэкі, і цэнтрысты разам з «сялянскімі партыямі», і прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў (немцы, яўрэі, беларусы, украінцы), і камуністы.

Стракатая ва ўсіх сэнсах дзяржава апынулася змацаванай асобай Пілсудскага, які пераўтварыўся ў адназначнага нацыянальнага лідара. Цікава, што неўзабаве пасля вайны і «Цуду над Віслай» — легендарнага разгрому бальшавікоў на подступах да Варшавы ў 1920 годзе, Пілсудскі аб'явіў, што… сыходзіць, хоць меў, фактычна, надпалітычны статус «начальніка дзяржавы». На бліжэйшыя пару гадоў ён пераўтварыўся ў пустэльніка ў маёнтку Суліювэк пад Варшавай.




## Забойства Нарутовіча і «хаос дэмакратыі»

А ў Польшчы тым часам віравалі жарсці. Букет палітычных сілаў ва ўладзе апынуўся настолькі розным, што без канфлікту абысціся не магло… Пунктам незвароту стала забойства прэзідэнта Габрыэля Нарутовіча баевікам-«эндэкам». Паводле польскіх правых, Нарутовіч быў «абраны галасамі нацыянальных меншасцяў», і наогул «быў яўрэем» (гэта няпраўда). Забойства зрабіла моцнае ўражанне на Пілсудскага і паспрыяла ягонаму пераўтварэнню ў паслядоўнага праціўніка парламенцкай дэмакратыі, за якой ён бачыў хаос.

На фоне палітычных жарсцяў, зменаў кіруючых кааліцыяў, забойства прэзідэнта, грымнуў яшчэ і эканамічны крызіс, разам са страшэннай інфляцыяй 1923 года. На знешнепалітычным накірунку таксама было неспакойна: канфлікты ў Сілезіі, дыверсіі з боку СССР ды Літвы, перманентная пагроза ўварвання бальшавікоў…

Увесь гэты час Пілсудскі праводзіў у Суляюўцы, зарабляючы палітычныя балы адно на тым, што не ўлазіў у разборкі партыяў і кааліцыяў. Спарадычна ён даваў жорсткія інтэрв'ю, дзе пляжыў палітыкаў направа і налева, бо тыя «здзекуюцца з яго Польшчы». Усё гэта, як у добрай п'есе, патрэбна для завязкі сюжэту і наступнай кульмінацыі.

Гэтым часам фармавалася супольнасць людзей, якія ў далейшым пачнуць называцца «пілсудчыкамі». Гэта найперш былыя і дзейсныя вайскоўцы, для якіх Пілсудскі быў адназначным лідарам, былыя чальцы ягоных легіёнаў у часы Першай сусветнай вайны ды масы незадаволеных крызісам палякаў. У той сітуацыі маршалак стаўся для іх іконай і надзеяй на лепшае заўтра.

Прэзідэнтам Польшчы пасля забітага Нарутовіча, які кіраваў усяго пару дзён, стаў Станіслаў Вайцэхоўскі. Інтэлігент, які сам некалі быў чальцом падпольнай арганізацыі, як і маршалак, сябар Пілсудскага. На гэтым фоне пачала наспяваць ідэя вайсковага перавароту, якая паставіла сентыментальныя моманты, накшталт сяброўства, на пяты ці дзясяты план.

## Травеньскі пераварот і памылка камуністаў

У траўні 1926 года група афіцэраў абвясціла, што ўлада не дзейсная, ім на дапамогу прайшлі былыя легіянеры, у Варшаве збіралася ўсё больш вайсковых злучэнняў. Зразумела, усё рабілася з ведама Пілсудскага. Іншыя вайскоўцы стаялі на баку дзейснага прэзідэнта, напрыклад, часткі з Пазнаньшчыны, дзе моцныя пазіцыі мелі «эндэкі». Некалькі дзён у польскай сталіцы і ваколіцах ішла сапраўдная вайна: з артылерыяй, авіяцыяй, параненымі і забітымі.

Сустрэча Вайцэхоўскага з Пілсудскім не дала плёну, бо прэзідэнт сустрэў маршалка пытаннем: «А хто вы такі?..». Урэшце, аднак, законны прэзідэнт саступіў. У краіне была дзіўная сітуацыя: сотні загінулых, больш за тысячу параненых, прэзідэнт склаў паўнамоцтвы, але легітымнасці Пілсудскага як кіраўніка дзяржавы не прызнаў.

Найбольш парадаксальна выглядала пазіцыя сацыялістаў і камуністаў, якія палічылі, што «ў барацьбе супраць рэакцыйнага ўраду варта падтрымаць Пілсудскага». У далейшым гэта будзе названа «травеньскай памылкай». Памылка, зрэшты, каштавала левым дорага, бо акурат іх лідары і актывісты найбольш пацярпелі цягам кіраўніцтва маршалка.

## «Цуд над Віслай» і «цуд над скрыняй»…

Так стартавала эпоха Пілсудскага, пачатак якой цяжка назваць легітымным прыходам да ўлады. Быў распушчаны стары ўрад ды абраны новы. Сам Юзаф то ўзначальваў гэты ўрад, то з'яўляўся ваенным міністрам, то наогул нікім не з'яўляўся — наўпрост кіраваў краінай, ён быў вышэй за палітыку. Разам з ім вайскоўцы-пілсудчыкі альбо «палкоўнікі» (нават не генералы): Сладкоўскі, Славэк, Бэк, Рыдз-Сміглы — афіцэры легіёнаў, верныя сябры лідара.

Прэзідэнтам Пілсудскі прызначыў прафесара Ігнацыя Масціцкага, які стварыў хімічную прамысловасць і ў прэзідэнты ісці не планаваў. Менавіта «прызначыў», бо на наступныя 10 гадоў той ператварыўся ў марыянеткавую фігуру: перад чарговымі выбарамі Масціцкі праз «палкоўнікаў» цікавіўся ў Пілсудскага, ці трэба яму ісці, ці хоча той яго бачыць прэзідэнтам.

Пілсудскі тым часам паставіў польскаму грамадству глабальную задачу: аздараўленне, альбо «санацыя». Па факце гэта быў набор патрыятычных, часам вельмі папуліцкіх, лозунгаў, за якімі не стаяла аніякай эканамічнай праграмы. Затое былі элементы, характэрныя для большасці еўрапейскіх аўтарытарызмаў учора і сёння: напрыклад, будоўля дарог.

Тэму дарог, дарэчы, на той момант ужо эксплуатаваў Мусаліні. Беларускі пасол у Сойме Адам Станкевіч адным з першых з трыбуны заявіў: маўляў, Пілсудскі захацеў лаўраў італьянскага лідара. Зрэшты, парламенту заставалася існаваць нядоўга: да 1928 года. З пераабраннем кіруючага органу дзяржавы ў закон дадаўся важны момант: парламент пазбавіўся выключнага права на самароспуск. З гэтага часу яго мог распускаць сам маршалак.

А яшчэ пад выбары 1928 года стварыўся Беспартыйны

# «Ён з народам, народ з ім»



Юзаф Пілсудскі і афіцэры легіёнаў падчас кампаніі на Валыні, 1916 (фота са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве)

блок супрацоўніцтва з урадам (ББСУ). Фактычна, гэта партыя Пілсудскага. На перамогу блока кінулі фантастычны рэсурс: і грашовы (мільёны злотых), і адміністрацыйны (настаўнікі, чыноўнікі, вайскоўцы). З таго часу палякі жартуюць пра два цуды Пілсудскага: адзін над Віслай і другі — над выбарчай скрыняй.

## Кастэты і кроў у парламенце

ББСУ выйграла выбары, але пакуль не стварыла рашучай большасці ў парламенце. Але і гэта не бяда. Калі трэба, у парламент уваходзілі вайскоўцы, якія на закіды адказвалі, накшталт: «Мы тут каву п'ем, гуляем». Шаблю і пісталетаў з сабой яны не бралі, а вось кастэты — наўпрост. Таму любая нязручная сітуацыя, асабліва пратэсты паслоў-камуністаў, магла скончыцца крывавай бойкай.

Роспуск Сойма адбыўся акурат у такой атмасферы. Калі ў чарговы раз, у 1930-м, натоўп вайскоўцаў сабраўся перад уваходам, спікер Дашынскі заявіў, што не адкрые пасяджэння. Так ён паламаў план маршалка: пратэст камуністаў, бойка, урачысты ўваход самога кіраўніка ў залю, дзе застаецца адно патрэбная частка паслоў, галасаванне... Пілсудскі тады абазваў спікера (таксама свайго былога паплечніка) ідыётам і распусціў парламент.

Так 1930 год стаў яшчэ адной вяхой у павароце ад дэмакратыі да аўтарытарызму. Гэта і шматмільённыя пазабюджэтныя фонды кіраўніка, расследаваннем справы якіх займаўся папярэдні парламент, пакуль не быў распушчаны. Гэта і палітычны гвалт: ад турмаў да знікнення людзей (без следу знік, напрыклад, генерал авіяцыі Уладзімір Загурскі, які не падтрымаў травеньскага перавароту 1926 года). Збіццё апанентаў самімі пілсудчыкамі стала нормай.

Гэта і ігнараванне правоў нацыянальных меншасцяў, у тым ліку беларусаў, якія паступова цалкам выціскаліся з мясцовай улады і грамадскага жыцця, і, як вынік, штурхаліся ў абдымкі маскоўскага ўплыву. Гэта і правалы ў знешняй палітыцы: у 1930-х Польшча ўмудрылася пасварыцца і з Францыяй, і з Чэхаславакіяй, хоць гістарычным ворагам усіх традыцыйна была Германія. Хто ведае, магчыма, і падзеі 1938–1939 гадоў выглядалі б па-іншаму, каб Варшава сябравала з Прагай.

## Запозненая канстытуцыя і «хітрая смерць»

Асабіста Пілсудскі вёў даволі сціплае жыццё, але адначасна паслядоўна будаваў міф пра сябе. Напрыклад, няпросты сцэнар свайго пахавання (асобна цела, сэрца і мозг) Пілсудскі прапісаў самастойна, будучы ўпэўненым, што палякі зробяць яго нацыянальным героем, накшталт Касцюшкі. Як і Касцюшка, ён лічыў сябе ліцвінам, а да палякаў часам ставіўся відавочна пагардліва, як да носьбітаў сварак і разладу. Цікава, што Пілсудскі назваў аднойчы сябе беларусам, падчас затрымання царскай паліцыяй яшчэ ў канцы XIX стагоддзя.

Як выглядалі зносіны старэючага Пілсудскага і «палкоўнікаў», якія фактычна кіравалі краінай? Маршалак сядзеў у палацы ў Бельведэры пад Варшавай, раскладаў пасьянсы, а да яго прыходзілі «палкоўнікі» з рознымі прапановамі, атрымліваючы даручэнні — часцяком абстрактныя і таямнічыя. Адной з такіх прапаноў была Канстытуцыя, напісаная Валерыем Славэкам, былым падпольшчыкам і сябрам маршалка, які некалі страціў вока падчас вырабу бомбы.

Канстытуцыя Славэка была далёкасяжным праектам, скроеным пад Пілсудскага і асобаў яго маштабу, моцных лідараў. Галоўны яе момант — максімальнае звужэнне кола выбаршчыкаў да 30 тысяч «заслужаных» палякаў, якія мелі высокія ўзнагароды ці іншыя сведчанні свайго ўнёску ў дзяржаўную справу. У 1935 годзе Польшча атрымала недэмакратычную Канстытуцыю, нібы сімвал піку праўлення свайго лідара. Бяда ў тым, што ўвесну 1935-га памёр сам Пілсудскі.

Максім Танк некалі пісаў: Пілсудскі памёр вельмі «хітра», не дажыўшы да 1939 года. Па смерці маршалка Польшча засталася краінай з разбуранай парламенцкай дэмакратыяй, дзе правы чалавека паважаліся адно да таго моманту, пакуль ты не лез у палітыку. Лагер «адасаблення» ў Бярозе-Картузскай быў нашпігаваны, ясна, не пілсудчыкамі, а прадстаўнікамі «левых» ды нацыянальных меншасцяў.

**Дзяржава, якая засталася пасля Пілсудскага, мела прыгожае знешняе аздабленне ў выглядзе лозунгаў пра патрыятызм, моц і еднасць, пад якой віравалі сацыяльныя і палітычныя праблемы. Усё гэта стрэліла ў 1939-м, калі ўрад разам з прэзідэнтам... уцёк у Румынію**

## Кошт памылак — катастрофа 1939-га

Пасля смерці маршалка надышоў чаканы перадзел улады паміж «палкоўнікамі». Кіраваць пачаў трыумвірат: прэзідэнт Масціцкі, міністр замежных справаў Бэк ды міністр абароны Рыдз-Смíглы. Цікава, што Славэк, колішні ідэолаг сістэмы Пілсудскага, ад кіраўніцтва быў адсунуты і ўвесну 1939-га здзейсніў самагубства.

Дзяржава, якая засталася пасля Пілсудскага, мела прыгожае знешняе аздабленне ў выглядзе лозунгаў пра патрыятызм, моц і еднасць, пад якой віравалі сацыяльныя і палітычныя праблемы. Усё гэта стрэліла ў 1939-м, калі ўрад разам з прэзідэнтам... уцёк у Румынію.

Менавіта ўцёкі кіраўніцтва былі фармальнай падставай для Масквы, якая заявіла тады, што Польшча «больш не існуе як дзяржава», таму самы час вызваляць братоў-беларусаў ды ўкраінцаў (цікава, што ў 2014-м свята Пуціна агучвала падобныя думкі да Украіны, пасля Майдану і ўцёкаў Януковіча). Урад Польшчы ў эміграцыі, які сфармаваўся крыху пазней, рашуча крытыкаваў папярэднія ўрады, на якія ўсклаў адказнасць за паразы ў знешняй і ўнутранай палітыцы, што прывяло да катастрофы 1939 года.

## Этапы сталення, або Ці магла Польшча быць іншай?

Ці магла б Польшча быць іншай у 1920–1930-х гадах, больш лагоднай і дэмакратычнай? Ці магчыма гэта было, маючы пад бокам СССР Сталіна, а пасля яшчэ і Германію Гітлера? А можа, праблема нават не ў знешняй сітуацыі, але ў этапах сталення: усярэдзіне самой Польшчы не было яшчэ добра сфармаванай палітычнай сістэмы, працэдуры перадачы ўлады, традыцыі дыялогу. Кожная дзяржава, мабыць, павінна прайсці праз гэта.

Магчыма, калі б незалежная Беларусь існавала яшчэ ў 1920-х гадах пад кіраўніцтвам спачатку Ураду БНР, а пасля, напрыклад, Булак-Балаховіча, усе пытанні з жорсткім стылем кіравання, усе «памылкі сталення», былі б перажытыя яшчэ ў той перыяд. Сітуацыя развівалася б па вельмі падобным да польскага сцэнары. Зрэшты, гэта толькі фантазіі.

І тое, што мы працягваем «сталець» сёння, — зусім не нагода да самазнішчальных рэфлексіяў. Вопыт старой «перадвераснёўскай» Польшчы паказвае беларусам: калі над краінай павісае здань катастрофы — яе ратуюць не вялікія лідары і «патрыятычныя» чыноўнікі. Яе ратуе сам народ. І ўжо народ потым сам вырашыць, ставіць свайму даўно памерламу «правадыру» помнікі або не ставіць.



Палякі разглядаюць цела правадыра ў труне, травень 1935

# Багата Дата

**Ці ведаеце вы, што звязвае Оскара Мілаша і Юрыя Алешу? А каго можна лічыць ледзь не галоўным атэістам? Пра гэта і шмат яшчэ пра што — у нашым аглядзе.**

### 2 сакавіка

140 гадоў з дня нараджэння ў Мінску Міхаіла Кроля, заснавальніка савецкай неўралагічнай школы. У 1930-я гады ён кіраваў Крамлёўскай бальніцай.

80 гадоў таму не стала Оскара Мілаша, французскага паэта і літоўскага дыпламата беларускага паходжання, дзядзькі і настаўніка лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1980 года Чэслава Мілаша. Мілаш нарадзіўся ў вёсцы Чарэя Чашніцкага раёна на Віцебшчыне.

25 гадоў таму Вярхоўны Савет Беларусі прагаласаваў за прэзідэнцкую форму кіравання. Парламенцкая апазіцыя БНФ байкатавала галасаванне, заявіўшы, што ўвядзенне прэзідэнцтва прывядзе да дыктатуры.

5 гадоў таму ў Мінску памёр народны пісьменнік Беларусі, намінант на Нобелеўскую прэмію, паэт Рыгор Барадулін.

### 3 сакавіка

**Сусветны дзень пісьменніка.**

120 гадоў таму нарадзіўся Юрый Алеша, савецкі пісьменнік з беларускімі шляхецкімі каранямі. У ягоны гонар названая адна з вуліц Гродна. Алеша — аўтар кнігі-казкі «Тры таўстуны» (1924).

85 гадоў з дня нараджэння мінчанкі Галіны Талкачовай, народнай артысткі Беларусі, актрысы Купалаўскага тэатра. Яна — жонка народнага артыста Аўгуста Мілаванава.

75 гадоў таму ў сваёй кватэры ў Вільні невядомым быў застрэлены пісьменнік Францішак Аляхновіч. Менавіта яго аповесць «У капцюрох ГПУ» — першы твор у сусветнай літаратуры, у якім арыштант сталінскага лагера апісвае тамтэйшае жыццё.

### 4 сакавіка

**Дзень беларускай міліцыі.**

У гэты дзень у 1917 годзе баявыя атрады рабочых пад кіраўніцтвам Міхаіла Фрунзэ захапілі ў Мінску паліцэйскую ўправу і разззброілі яе супрацоўнікаў. Таму вельмі здзіўляе, што ў 2017 годзе каля МУС усталявалі помнік царскаму гарадавому.

385 гадоў таму пад Брэстам з'явіўся на свет Казімір Лышчынскі, філосаф, педагог і грамадскі дзеяч Рэчы Паспалітай. Аўтар трактату «Аб неіснаванні Бога». У 1689 годзе па рашэнні царкоўнага суду абезгалоўлены і спалены на вогнішчы ў цэнтры Варшавы за атэізм.

95 гадоў з дня нараджэння балерыны Лідзіі Ражанавай.

85 гадоў з дня нараджэння драматурга і кінасцэнарыста Анатоля Дзялендзіка (п'еса «Выклік багам», фільм «Анастасія Слуцкая»).

70 гадоў спаўняецца археолагу Валянціну Собалю, а таксама народнаму артысту Беларусі, спеваку-барытону і педагогу Івану Тамашэвічу.

### 5 сакавіка

740 гадоў таму адбылася бітва пад Ашэрадэнам. Цяпер гэта горад Айзкраўкле ў Латвіі. Блізся крыжакі Лівонскага ордэна і войскі ВКЛ пад камандаваннем князя Трайдзеня. Ордэн зазнаў паразу — другую па маштабах у XIII стагоддзі. Быў забіты разам з дзясяткамі рыцараў гросмайстар Лівонскага ордэна.

### 6 сакавіка

Еўрапейскі дзень памяці праведнікаў народаў свету — людзей, якія выступалі супраць таталітарных рэжымаў і масавых злачынстваў. У прыватнасці, ратавалі яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны. Праведнікамі народаў свету прызнаныя больш за 900 беларусаў.

### 7 сакавіка

100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Слесарэнкі, беларускага пісьменніка і акцёра. Здымаўся ў фільмах «Вясёлыя хлопцы», «Бежын луг», «Палескія рабінзоны».

95 гадоў таму была прынята пастанова прэзідыума ЦВК СССР «Аб аб'яднанні ў складзе Беларускай ССР усіх тэрыторый Савецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва». БССР пашырылася шэрагам паветаў Віцебшчыны, Гомельшчыны і Смаленшчыны. Гэта так званае першае ўзбуйненне БССР: яе тэрыторыя павялічылася ўдвая — да 110 тысяч квадратных кіламетраў, а насельніцтва — амаль утрая, да 4,2 мільёна чалавек.

### 8 сакавіка

**Міжнародны жаночы дзень.**

65 гадоў спаўняецца Андрэю Саннікаву. Кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Працаваў намеснікам міністра замежных спраў Беларусі — падаў у адстаўку напярэдадні рэферэндуму 1996 года на знак пратэсту супраць яго правядзення. Увесну 2011 года Саннікаў быў асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі нібыта за арганізацыю беспарадкаў у дзень галасавання на выбарах прэзідэнта 19 снежня 2010 года. Пасля памілавання Лукашэнкам атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Падзямеллі Пінску:
## ці адкрыюць іх для турыстаў?

Яўген БЯЛАСІН

**Дзве аркі ў падвале Музея Беларускага Палесся, верагодна, маюць працяг пад зямлёй у бок касцёлаў — наяўнага і ўзарванага. А таксама да тунэляў, пра якія згадваюць пінчукі — сведкі часу.**



Аркі ў падвале пінскага Калегіума

Пра аркі стала вядома пасля таго, як набыла розгалас мая кніга «Подземелья Бреста, крепости и...». Праз нейкі час інфармацыя дайшла і да мяне, і я выправіўся ў Пінск. У дырэкцыі музея мяне накіравалі ў навуковы аддзел.

Мне паказалі фатаграфіі арак, знойдзеных у старым будынку (калісьці тут месціўся Калегіум езуітаў). Хады за аркамі, відавочна, маюць падземны працяг за перыметрам Калегіума. Праймы закладзеныя адносна новай цэглай. Кладка адной з праймаў уверсе сарваная з раствору, потым цэглы склалі яшчэ раз. «Рабочыя, мабыць, цікавіліся, што там далей, — кажа адна з супрацоўніц. — Верагодна, ход за аркай, дзе разабраная цэгла, вёў да каталіцкага ансамбля, Кафедральнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштара францысканцаў. А тая, дзе вузкая лёха ўверсе, — да месца цераз дарогу, дзе быў Фарны касцёл Святога Станіслава».

Дырэктар Музея Беларускага Палесся Ірына Дзямчук кажа, што было б цікава часткова адкрыць хады для турыстаў: «Але мы тут не галоўныя. Пінскі гарвыканкам у гэтым ключавая ўстанова. Акрамя таго, трэба шмат узгадненняў, мы ж помнік дойлідства. У нас яшчэ археалагічных раскопак побач з Калегіумам не было, і на гэта трэба дазвол». Дык у Нясвіжы, кажу, знайшлі і волю, і патрэбныя дазволы — і пры палацы ёсць дзейны тунэль: «Вы хіба не хочаце быць другімі ў Беларусі?»

Анягож, але замінаюць абставіны. Будынак з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю, таму любы праект працы ў ім у разы даражэйшы за звычайны. Раскопкі таксама дарагія. Трэба нямала грошай.

Згадваю фота з Дошкі Гонару пры ўваходзе ў музей: «А ці не мог бы стаць мецэнатам ганаровы грамадзянін Пінска Аляксандр Міхайлавіч Зарыбка? Як-ніяк (чытаю): «генеральный директор группы компаний «АЛМИ» (Беларусь и Россия)». І спрыяў ужо гораду матэрыяльна». Дырэктарка адказвае: пакуль да яго не звярталіся. «Ён чалавек заняты. Калі ў нас бывае, то мімаходзь, спяшаецца», — кажа яна.

У навуковым аддзеле распавялі пра іншага багатага, з Захаду: «Адмыслова дзеля яго ў выходны дзень музей адчынілі, правялі па экспазіцыі — дык каб хоць квіток купіў. То якое ўжо спонсарства?»

А можа тут, у Беларусі, хто падтрымае? Гісторыю ўзняць з руін, з-пад зямлі?

Верагодныя хады з Калегіума — ці спалучаліся яны з сеткай пінскіх тунэляў? Даступны мне народны тэлеграф пашабуршэў, пабзычаў, пазгадваў дзяцінства, параіўся — і вывеў на карэннага пінчука, які сам хадзіў пад зямлёй. Ігар Кулагін малодшым школьнікам годзе гэтак у 1985-м, у кампаніі з больш старэйшымі хлопцамі ў двары дома на рагу вуліц Харужай і Каржа адсоўвалі бетонную пліту, апускаліся ўніз і ішлі хто з ліхтарыкам, а хто са свечкай у бок вуліцы Леніна. Праз метраў сорак-пяцьдзясят мусілі вылазіць у адкрыты люк. Выхад быў таксама ў двары дома. Ісці было няцесна, але часам трапляліся парожкі-падвышэнні, і трэба было прыгінацца. Далей, пад вуліцу Леніна і за яе, ход быў падтоплены вадой.

Што з гэтага вынікае? Дзве рэчы.

Першая — не лазьце самі пад зямлю! Там небяспечна! Могуць быць газы — і даволі раз удыхнуць, каб здарылася трагедыя. Могуць быць боепрыпасы. Можа засыпаць: камунікацыі старыя, узрост не дзесяцігоддзямі мерыцца, цэгла скляпенняў тут і там страціла трываласць, самі хады няцэлыя, пункцірныя.

Другая — наша зямля, як не раскрытая яшчэ месцамі кніга, мае цікавыя старонкі з гісторыяй і гісторыямі. Не пабачыць, не пачуць іх было б шкада, але галоўнае — няправільна.

**Фота з фонду Музея Беларускага Палесся**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №336

Падпісана да друку 01.03.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.